ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

19 МАЯ 1995 г. № 20 (3792) Кошт 400 руб.

## "КАЛІ ДЫХАЦЬ І ЖЫЦЬ НЕМАГЧЫМА..."

***Мікола МІКУЛІЧ:** "Невымоўна блага Максіму Танку. Палыновая гаркота страт і няшчасцяў, нягод і расчараванняў, якія апошнім часам гэтак неміласэрна абрушыліся на і без таго схварэлага паэта, моцна падбіла яго здароўе, па-жывому раскроіла душу і сэрца. А тут яшчэ вядомыя грамадска-сацыяльная хлюпата і бязладдзе..."*

**5**

## ВЯРТАННЕ ЛЕАНІДА КУЗЬМІНА

***Юлія АНДРЭЕВА:** "У красавіку год таму яму споўнілася трыццаць. А на тыдзень да гэтай адметнай даты ён вярнуўся з ужо другой па ліку гастрольнай паездкі па Расіі. Вярнуўся? Ці наадварот..."*

**10—11**

## КАБ КРАЙ БЫЎ ВОЛЬНЫМ...

***С. ПАДОКШЫН:** "Прыхільнасць Мікалая Радзівіла Чорнага Рэфармацыі некаторыя даследчыкі звязвалі з яго быццам бы сепаратысцкімі тэндэнцыямі, жаданнем пертварыць падуладныя яму землі ў сваё ўдзельнае княства, легкадумным рэлігійным франдзёрствам..."*

**16**

## БУДЗЬМА РАЗАМ!

**Паважаныя прыхільнікі "ЛіМа"!**

Не зважайце на тое, што некалькі апошніх нумароў нашай газеты прыйшлі да вас са спазненнем. "ЛіМ" выходзіў і будзе выходзіць, а цяжка сёння ўсім нам. Падтрымайце "ЛіМ", падпішыцеся на "ЛіМ", будзьма разам у змрочныя гадзіны і тады — выжывем!

**Кошт падпіскі**

ў Мінску: на 3 месяцы — *15 тысяч рублёў*, на 1 месяц — *5 тысяч рублёў*; па Беларусі: на 3 месяцы — *12 тысяч рублёў*, на 1 месяц — *4 тысячы рублёў*.

**Наш індэкс — 63856.**



**Народ, Беларускі Народ!**
**Ты — цёмны, сляпы, быццам крот.**
**Табою ўсягды пагарджалі,**
**Цябе не пушчалі з ярма**
**І душу тваю абакралі, —**
**У ей нават мовы няма.**

**Збудзіўшысь ад грознай бяды,**
**Ўвесь поўны смяротнай жуды,**
**Ты крыкнуць не вольны "Ратуйце!"**
**І мусіш ты "Дзякуй" крычаць.**
**Пачуйце жа гэта, пачуйце,**
**Хто ўмее з вас сэрцам чуваць!**

*Максім БАГДАНОВІЧ*

Анонс

# УСЕБЕЛАРУСКІ ФЕСТЫВАЛЬ НАРОДНАГА ГУМАРУ

На пачатку красавіка калегія Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, упраўленне культуры Гомельскага аблвыканкама і выканкам Калінкавіцкага раёна прынялі пастанову "Аб правядзенні Усебеларускага фестывалю народнага гумару", у якой, у прыватнасці, гаворыцца: "Правесці з удзелам Беларускага фонду славянскага пісьменства і славянскіх культур, Беларускага дзіцячага фонду, рэдакцый часопісаў "Вожык", "Вясёлка", газет "Рэспубліка", "Звязда", "Гомельская праўда" 7—9 ліпеня 1995 года ў Калінкавіцкім раёне Усебеларускі фестываль народнага гумару. Упраўленню ўстаноў культуры і народнай творчасці міністэрства запрасіць да ўдзелу ў фестывалі творчыя дэлегацыі з Балгарыі, Польшчы, Расіі і Украіны. Арганізацыйныя пытанні па падрыхтоўцы і правядзенні фестывалю народнага гумару ўскласці на Беларускі універсітэт культуры, Гомельскі абласны навукова-метадычны цэнтр і аддзел культуры Калінкавіцкага райвыканкама. Грашовыя сродкі пералічваюцца на разліковы рахунак аддзела культуры Калінкавіцкага райвыканкама N 131910 код 151501674, 40061391 у Ашчадбанку N 6232 у г. Калінкавічах".

Ва ўмовах правядзення Усебеларускага фестывалю народнага гумару гаворыцца: "У фестывалі прымаюць удзел калектывы мастацкай творчасці і індывідуальныя выканаўцы — пераможцы абласных (і г. Мінска) свят, фестываляў народнага гумару, незалежна ад іх ведамаснай падпарадкаванасці і без абмежавання ўзросту.

Адбор для ўдзелу ў фестывалі праводзіцца на працягу красавіка—чэрвеня 1995 года па наступных жанрах: розыгрыш, небыліца, гумарэска, жарт, замова, анекдот, прыпеўка, народная гульня, жартоўны танец і песня, тэатры мініяцюр, гульнявыя жартоўныя праграмы культарганізатараў. У сваім складзе творчыя дэлегацыі ад кожнай вобласці і Мінска могуць мець не больш за 30 чалавек. Для прыняцця ўдзелу ва ўрачыстым адкрыцці фестывалю дэлегацыі абласцей рэспублікі павінны падрыхтаваць тэатральныя гумарыстычныя прывітанні (на 5—7 хвілін), якія могуць уяўляць сабой своеасаблівыя канцэрты. Для выступлення па ўсіх жанрах кожнай вобласці выдзяляецца 1 гадзіна 10 хвілін, што прыкладна складае 8 хвілін на кожны жанр. Дэлегацыі абласцей выступаюць таксама з канцэртнымі праграмамі на сцэнічных пляцоўках Калінкавіцкага раёна. З красавіка па чэрвень 1995 года праводзіцца рэспубліканскі конкурс раённых, гарадскіх і абласных газет, якія на сваіх старонках друкуюць творы рэгіянальнага гумарыстычнага фальклору. Пераможцы конкурсу — па тры лепшыя газеты ад вобласці — прымаюць удзел у фестывалі. Спісы ўдзельнікаў творчых дэлегацый, праграмы выступленняў, індывідуальны рэпертуар, сцэнарыі гульнявых праграм прадстаўляюцца АНМЦ у Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь (упраўленне ўстаноў культуры і народнай творчасці) да 1 чэрвеня 1995 года".

Па выніках фестывалю будуць падрыхтаваны да друку спецыяльныя зборнікі найбольш цікавых матэрыялаў.

# ЯЕ ВЯЛІКАСЦЬ — АКТРЫСА



Менавіта так называецца выстаўка, прысвечаная 90-годдзю Стэфаніі Міхайлаўны Станюты, разгорнутая ў гэтыя дні ў памяшканні Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Шматлікія экспанаты, прадстаўленыя на ёй — нумары газет, часопісаў, кнігі, буклеты, афішы, — дазваляюць у асноўных вехах прасачыць жыццёвы і творчы шлях адной з самых выдатных беларускіх актрыс.

Адначасова гэтыя матэрыялы і свайго роду далучэнне да гісторыі нацыянальнага тэатра, бо менавіта лёс С. Станюты — народнай артысткі СССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, нашай выдатнай сучасніцы, чалавека багатай душы і шчодрага сэрца — акурат і ўспрымаецца як частка яе. А за лёсам гэтым шляхі станаўлення тэатра і мужнення яго. А за ім — тыя пуцявіны, якімі ішло змаганне за ўсё беларускае.

Быць першым заўсёды адказна. Яна ж, Стэфанія Міхайлаўна, часта вымушана была браць на сябе ношу першапраходцы. І тады, калі яшчэ ў 1919 годзе пачала сцэнічную дзейнасць у Першым беларускім таварыстве драмы і камедыі. Зусім юнай дзяўчынкай спасцігала сакрэты гэтага таямнічага, загадкавага і такога вабнага мастацтва. І тады, калі пасля сканчэння ў 1926 годзе ў Маскве Беларускай драматычнай студыі назаўсёды звязала лёс з прафесійнай сцэнай. А з 1931 года, як вядома, нязменна працуе ў тэатры імя Янкі Купалы.

За гэты час Стэфаніяй Міхайлаўнай створаны дзесяткі яркіх, запамінальных вобразаў. Няма патрэбы іх пералічваць, бо ці не кожная роля, выкананая С. Станютай, — тое мастакоўскае дасягненне, на якое здатны толькі творца, які мае талент, Богам дадзены, і ашчадна расходуе яго на карысць роднай Бацькаўшчыны. Ёй аднолькава блізкі самы розны рэпертуар, але ў яе набытках далёка не апошнюю ролю займаюць спектаклі, створаныя па п'есах беларускіх аўтараў.

Свой чалавек Стэфанія Міхайлаўна і на радыё, і на тэлебачанні, здымалася яна і ў многіх фільмах.

Сапраўды — яе вялікасць АКТРЫСА! І гэтым, бадай, усё сказана.

З днём нараджэння, дарагая Стэфанія Міхайлаўна! Мы, прыхільнікі Вашага яркага, самабытнага таленту, зычым Вам усяго самага найлепшага, а найперш — здароўя і яшчэ раз здароўя!

•

Урачыстае віншаванне Стэфаніі Міхайлаўны са слаўным юбілеем адбылося ў яе родным тэатры. Сабраліся калегі па працы, прадстаўнікі грамадскасці, удзячныя гледачы. Пранікнёныя словы ў адрас юбіляркі сказалі намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь У. Русакевіч, міністр культуры і друку А. Бутэвіч, старшыня праўлення Беларускага Саюза тэатральных дзеячаў А. Дудараў...

•

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь С. Станюта за вялікі асабісты ўклад у развіццё беларускага тэатральнага мастацтва, высокае прафесійнае майстэрства ўзнагароджана медалём Францішка Скарыны.

# "ПЛАНАЎ У НАС ШМАТ"

***Да сусветнага Дня музеяў, што адзначаецца 18 мая, наш карэспандэнт меў гутарку з дырэктарам Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў РБ Леанідам ХАДКЕВІЧАМ.***

**— Леанід Тарасавіч, да гадавых святаў звычайна прыходзяць з нейкімі падрахункамі...**

— Зроблена ў нас многа, а запланавана яшчэ больш. Але перш вернемся да пачатку 80-ых. Што ў нас было? Два музеі з філіяламі. Як на абраз, маліліся на двух класікаў, іншых пісьменнікаў як быццам не існавала. Зараз у аб'яднанні 5 літаратурных музеяў і каля дзесяці іх філіялаў. З нядаўна адкрытых назаву Кузьмы Чорнага ў Цімкавічах і Максіма Гарэцкага ў Малой Багацькаўцы. Ствараецца музей Манюшкі. Абнаўляюцца экспазіцыі музеяў Якуба Коласа, Петруся Броўкі.

**— А ў вас ніхто не пытаецца, навошта пры нашай усеагульнай беднасці мець музей у той жа Малой Багацькаўцы, дзе турысты ўвогуле бываюць не часта?**

— Калі б спыталі, я адказаў бы так. Музей — гэта перш за ўсё помнік. У дадзеным выпадку — помнік выдатнаму пісьменніку, які быў расстраляны. І хай сабе ў музеі Багушэвіча за год пабывала 500 чалавек, я не лічу, што колькасць — самае галоўнае. Гэта пры Савецкім Саюзе ў Вязынцы было па 50 тысяч наведвальнікаў за год, цяпер такога няма. Да нас прыходзяць студэнты, школьнікі — моладзь, адным словам. Мы развіваем іх менталітэт, пагпыбляем веды па роднай літаратуры, тут яны спазнаюць свае карані, чуюць, урэшце, прыгожую літаратурную мову, што на сёння таксама не лішне.

**— Можа стварыцца ўяўленне, што музей — гэта нейкі ціхмяны астравок у бурлівым моры грамадскіх падзей.**

— Я так не лічу. Музей — не астравок, а пярэдні край абароны культуры. Мы па-свойму адгукаемся на падзеі, самымі рознымі музейнымі сродкамі. Выставамі, напрыклад. Часовая экспазіцыя музея гісторыі беларускай літаратуры, якая мае назву "Покліч", прадстаўляе кнігі і рэчы пісьменнікаў, чые імёны былі выкраслены з нашай літаратуры, проста забаронены. Або, скажам, выстава, прысвечаная творчасці Васіля Быкава. Хіба гэта не наш водгук, не наш погляд на тое, што адбываецца ў рэспубліцы?

**— Усё ідзе да таго, што праблем у нацыянальнай культуры стане яшчэ больш. Магчыма, дойдзе да таго, што не надта выказваж сваю пазіцыю. Што вы тады будзеце рабіць?**

— Мы будзем выконваць свой грамадзянскі абавязак і адлюстроўваць ход падзей аб'ектыўна, а не так, як бы некаму хацелася.

**— У вас і вашых калег не бывае адчування, што вашы намаганні мала каму трэба, што нашы людзі розумам спяць?**

— 70 год ідэалагічнай апрацоўкі не маглі не пакінуць следу ў свядомасці беларусаў. Зашмат сапраўдных інтэлігентаў было фізічна вынішчана, зашмат пастаўлена на калені. Мы нямала ездзім па Беларусі, нашы філіялы ў вёсках і мястэчках, і там такога падчас наслухаешся... Творчая інтэлігенцыя таксама не скажаш, каб была маналітнай (што бачна нават па адносінах да рэферэндуму). І сёння, калі мы будуем уласны дом, уласную дзяржаву, зноў узнімаецца пытанне аб нейкіх саюзах, аб тым, каб разам, сумесна... Можна і разам, але пры гэтым захаваць свой твар і незалежнасць. Комплекс непаўнацэннасці даволі часта вылазіць з беларуса — як самага простага, так і кіруючага. Таму неабходна музейнымі сродкамі абуджаць у людзях нацыянальную годнасць, кранаць лепшыя струны чалавечых сэрцаў.




**— Якія з музеяў, на ваш погляд, адпавядаюць сучасным музейным канонам, а значыць — найлепш выконваюць сваю асветніцкую, патрыятычную місію?**

— Назаву перш за ўсё музей Максіма Багдановіча. Яго высокі ўзровень адзначалі і спецыялісты іншых краін, якім даводзілася пабываць у ім. Падабаецца мне таксама музей Адама Міцкевіча ў Навагрудку. Праўда, ён не ўваходзіць у наша аб'яднанне.

**— Дык ёсць і незалежныя музеі?**

— Я не згодзен з пастаноўкай пытання. Усе музеі аб'яднання незалежныя, у кожнага свой юрыдычны статус. Па-за гэтай дзяржаўнай структурай яшчэ працуе музей Янкі Купалы. Аб'яднанне на сённяшні дзень — гэта магчымасць аб'яднаць сілы і сродкі, вызначыць прыярытэтныя накірункі развіцця. Расце не толькі лік літаратурных музеяў, але і ўзровень музейных работнікаў.

**— Калі ён сапраўды расце, то толькі дзякуючы практыцы. Наколькі мне вядома, усе музейшчыкі — пераважна філолагі і спецыяльнай падрыхтоўкі не маюць.**

— Так, супрацоўнікі музеяў больш практыкі, чым навукоўцы. Яны ствараюць экспазіцыі, камплектуюць фонды, але, на вялікі жаль, абагульняючых навуковых прац у нас мала. Музейная навука сама патрабуе перагляду. Тое, чаму ў свой час вучылі, састарэла і не можа быць узята за аснову. Але ж немагчыма адразу "перабудавацца", патрэбен час.

**— Існуе такая думка, што музейная праца — адна з самых лёгкіх і спакойных.**

— Музейная праца — адна з самых нізкааплачваемых. Хто атрымлівае капейкі, з таго цяжка ўсур'ёз патрабаваць. Пра спакой таксама не скажаш. Тут свае штормы, свае віхуры, асабліва дзе ствараюцца новыя экспазіцыі. Дзе пошук, там і спрэчкі.

**— А як вы самі, Леанід Тарасавіч, прыйшлі ў музейную справу? Вы ж гісторык па адукацыі?**

— Справа ў тым, што я вырас у сям'і пісьменніка, у літаратурным асяроддзі. Беларуская літаратура — родная для мяне. У 1976 годзе я стаў працаваць загадчыкам мемарыяльнага запаведніка "Вязынка". Праз 10 год мне прапанавалі ўзначаліць музей Максіма Багдановіча, які толькі ствараўся. У 1989 годзе адбыўся конкурс на дырэктара Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў, і я гэты конкурс прайшоў.

**— Штосьці вы нічога не сказалі пра матэрыяльны бок музейнай справы. Без гэтага цяпер гутарак не бывае. Ці ёсць у вас фундатары?**

— Сёння галоўны фундатар культуры — дзяржава. Усё, што мы маем, гэта грошы бюджэту і падаткаплацельшчыкаў. Але каб увасобіць усё задуманае, дзяржаўных грошай не хопіць. Таму перад намі стаіць задача — знайсці людзей ці арганізацыі, якія б укладалі свае сродкі і ў музеі. Было б прасцей, калі б існаваў закон аб уласнасці. Тады б усё стала на сваё месца.

**— Яшчэ адной звыклай скаргі я не чую — што парушаны сувязі з былымі рэспублікамі. Што б вы наконт гэтага сказалі?**

— Мы дасюль плённа супрацоўнічаем з музеямі адпаведнага профілю Расіі, Украіны, Польшчы. Нас запрашаюць у Маскву, Санкт-Пецярбург, Кіеў, але не так проста зараз выехаць куды-небудзь за мяжу з выставаю. У мінулым годзе на базе Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры адбыўся міжнародны семінар, у Мінск прыехалі кіраўнікі многіх літаратурных музеяў — імя Пушкіна, Льва Талстога, Дзяржаўнага літаратурнага музея Украіны, гэта прафесіяналы, энтузіясты сваёй справы. У нашых суседзяў музейная школа куды больш развітая, мае даўнія традыцыі і надзейны навуковы грунт. Так што нам ёсць у каго вучыцца. Зрэшты, у нас пры жаданні таксама ёсць што пераняць.

**— Поспехаў вам, і хай збудзецца запланаванае.**

**Гутарыла Г. КАРЖАНЕЎСКАЯ**

## З КЛОПАТАМ ПРА ЛЁС БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

**Чарговы выпуск зборніка "Беларусістыка", падрыхтаваны Аддзелам навуковай інфармацыі па гуманітарных навуках і Інстытутам гісторыі Акадэміі навук Беларусі, невыпадкова пазначаны як "Беларусь: гістарычны лёс народа і культуры". Менавіта так называлася навуковая сесія, праведзеная Аддзяленнем гуманітарных навук 16—17 лістапада 1994 года, а матэрыялы яе сабраны гэтым разам пад адной вокладкай.**

**Адкрываецца зборнік уступным словам Г. Лыча. Далей ідуць даклады, з якімі выступілі М. Касцюк ("Гістарычны вопыт беларускага народа: вывучэнне і выкарыстанне"), А. Майхровіч ("Нацыянальныя духоўныя традыцыі і беларуская ідэя"), М. Піліпенка ("Беларуская традыцыйная культура як феномен еўрапейскай цывілізацыі"), В. Каваленка ("Філасофія нацыянальнага жыцця ў беларускай літаратуры XX ст."), А. Булыка ("Моўныя кантакты перыяду фарміравання і развіцця беларускай народнасці").**

**Работа сесіі пасля пленарнага пасяджэння праходзіла ў пяці секцыях, адпаведным чынам і аб'яднаны ў аднайменныя раздзелы матэрыялы: "Этнакультурныя працэсы на тэрыторыі Беларусі старажытнай і раннесярэднявечнай эпохі", "Ва ўмовах супрацьстаяння Усход—Захад. XIII—XVIII стст.", "Пад уладай расійскай імперыі: канец XVIII ст. — 1917 г.", "Народ Беларусі ў савецкі перыяд", "У час радыкальных пераўтварэнняў".**

**Наклад зборніка — 250 экземпляраў, але з ім можна пазнаёміцца ў буйнейшых бібліятэках.**

## АСВЕТЛЕНА ІМЕМ СКАРЫНЫ

**Як вядома, на кастрычнік 1992 года прыпала некалькі мерапрыемстваў, прысвечаных ушанаванню памяці славутага сына зямлі беларускай Францыска Скарыны. 20 кастрычніка адбылося ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі ў Падуанскім універсітэце, сцены якога памятаюць слыннага першадрукара, а 21—22 кастрычніка Фонд Дж. Чыні і Цэнтр імя Ф. Скарыны правялі ў Венецыі навуковую канферэнцыю, на якой з дакладамі і паведамленнямі выступілі беларускія, італьянскія і польскія вучоныя.**

**Несумненна, што цікавасць да гэтых мерапрыемстваў заслугоўвае таго, каб занатаваць іх. Кіруючыся гэтым, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, Фонд Джорджа Чыні (Венецыя), Беларускі навукова-вытворчы цэнтр "Аднова" падрыхтавалі, а выдавецтва "Навука і тэхніка" выдала кнігу "Ад Полацка і Нясвіжа — да Падуі і Венецыі".**

**Адкрываецца зборнік дакладам тагачаснага міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь П. Краўчанкі "Подзвіг Скарыны" на адкрыцці мемарыяльнай дошкі. Далей ідзе эсэ А. Лойкі "Скарына ў Падуі". Іншыя матэрыялы закранаюць розныя аспекты асветніцкай і друкарскай дзейнасці Ф. Скарыны. Вось гэтыя публікацыі: "Беларусь — Італія. Культурныя кантакты на працягу стагоддзяў" А. Мальдзіса, "Ад Нерона — да Боны, ад Боны — да Нерона. Старонкі беларуска-італьянскіх сувязяў эпохі Адраджэння" В. Чамярыцкага, "Альбом Бернардоні. Новая крыніца па гісторыі архітэктуры і будаўніцтва ў Нясвіжы (канец XVI — пачатак XVII ст.) Г. Галенчанкі, "Дантэ Аліг'еры" ў Мінску" Хв. Міхасенкі, "Італьянскія першакрыніцы ў мастацтве кнігі Францішка Скарыны" В. Шматава, а таксама выступленні на канферэнцыі замежных навукоўцаў — Д. Джыраўда (Венецыя, "Колеры Русі"), А. Цеханавецкага (Лондан, "Нясвіж як еўрапейскі цэнтр культуры"), П. Дзіні (Піза, "Роля беларускіх земляў у Вялікім княстве Літоўскім").**

## І НАВУКОЎЦЫ ВАЯВАЛІ

**Напярэдадні 50-годдзя Вялікай Перамогі ў выдавецка-паліграфічным аб'яднанні "Беларуская навука" выйшла кніга "Ваенныя лёсы": супрацоўнікі АН Беларусі — удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны", падрыхтаваная сакратаром камісіі Акадэміі навук Беларусі па гісторыі М. Токаравым пад рэдакцыяй ганаровага прэзідэнта Акадэміі навук М. Барысевіча.**

**Першыя экземпляры гэтага выдання былі ўручаны ветэранам вайны, што прысутнічалі на ўрачыстай цырымоніі з выпадку адкрыцця мемарыяльнай дошкі ў памяшканні прэзідыума АН. На ёй занесены прозвішчы 17 навукоўцаў, якія загінулі ў баях за Радзіму. Сярод тых, хто выступіў на адкрыцці, быў і кандыдат эканамічных навук, удзельнік вайны І. Чарняўскі, які чытачам вядомы як пісьменнік-дакументаліст І. Дуброўскі.**

Меркаванне

# ВЫНІК ДУХОЎНАГА ЎЦІСКУ

Шчаслівы народ, якому не прыйшлося перажыць сацыяльнае і духоўнае рабства.

Шчаслівы народ, які не даў стаптаць і апаганіць сваёй мовы.

Тройчы шчаслівы народ, які здолеў захаваць сваю душу і нацыянальную годнасць.

Можна толькі ўявіць, што думае іншаземец пра беларусаў, чытаючы зборнік "Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы", выдадзеныя Акадэміяй навук у самы росквіт застою. Вось як у ім падаецца мудрасць і гумар беларусаў (не даводзіцца ўжо гаварыць пра мову і паэтычнасць гэтых "твораў"):

"Мы калгасным ураджаем усіх ворагаў пужаем".

"У калгасе працаваць — гора і бяды не знаць".

"Зрабілі калгас — усяго стала ў нас".

А вось з раздзела "Камуністычная партыя. Вялікі Ленін":

"За камуністамі пайшлі, волю і шчасце знайшлі".

"Ад ленінскай навукі мацнеюць розум і рукі".

"Мы мацнеем і расцём, бо за партыяй ідзём" і г. д.

А паглядзіце, як ганьбіцца рэлігія:

"Бог не гуляе, многа палатна мае, бедным торбы нагатаўляе..."

"Даў бы рубель на малебен, ды самому патрэбен".

"На бязлюддзі і поп — чалавек".

"На бога спадзяешся — без кашулі астанешся".

Не народ усё гэта ствараў і не народу несці за гэта адказ, і ўсё ж...

У сваім артыкуле "Частушка, прыпеўка і... сегідыльля" ("ЛіМ" за 23 жніўня 1991 г.) я пісаў аб згубным уплыве частушачнага сурагату на мову і фальклор. Прайшло тры гады. Газета "Звязда" аб'явіла конкурс прыпевак пад назвай "Жывы фальклор". Наконт значэння такога конкурсу ў "Звяздзе" чытаем: "Далібог, ужо не так трывожна за мову, калі штодня тысячы і тысячы людзей складаюць на ёй вершы..."

Але вось на якой мове друкуе прыпеўкі паважаная газета:

**Ні Смаленска нам не трэба,**
**Вільні, Бранска тожа,**
**Дружба Янкі і Івана**
**Нам усяго дарожа...**

Альбо:

**Скаргу я ў ААН паслала,**
**Хай нясе папера,**
**Цяжка жыць на свеце стала**
**Без СССРа...**

На здымку ў газеце бачым групу "маржоў" у плаўках каля ледзяной купелі, а побач надпіс: "Той, хто спявае прыпеўкі і горача кахае жанчын, — не страшыцца ледзяной палонкі".

Далей чытаем: "Сярод вялікага мноства твораў рэдакцыя адбірае для друку самыя дасціпныя: дзе ёсць цікавая тэма, удалая рыфма, метафара (вобраз), лёгкі рытм, а "солі" — якраз у меру, а не занадта".

І вось самыя "дасціпныя" з адабраных прыпевак:

**Я на бочачцы сяджу,**
**А пад бочкай — штупка.**
**А мой мілы — беларус,**
**А я — беларуска.**

Альбо:

**Аб'яднайце вы хутчэй**
**Рубель з "зайчыкам",**
**А цымбалачкі мае —**
**З балалаечкай....**

Прапаную чытачам "ЛіМа" самім меркаваць аб мастацкай вартасці такога "фальклору"...

Неадназначна стаўлюся я і да так званай "апрацоўкі" народных песень.

Народная песня — гэта першакрыніца нашага духоўнага выхавання, нашай культуры і самасвядомасці. Каб брацца за апрацоўку народнай песні, трэба ведаць гісторыю народа, нацыянальныя традыцыі, любіць усё гэта.

Возьмем класіку. Калі мы слухаем Эдварда Грыга альбо Франца Шуберта, то ў залежнасці ад нашага індывідуальнага ўспрымання, фантазіі і эмацыянальнасці ўзнікаюць нейкія душэўныя нюансы. Светлыя ўспаміны дзяцінства, гукі ранняй вясны, першае спатканне... Іншая справа — народная песня. Вось адна з лепшых, на мой погляд, беларускіх народных песень "Ой, рана на Івана". Славянскае свята Купалле. У апошнія стагоддзі — паўязычніцкае-паўхрысціянскае, таксама, як і Дзяды. Ускраіна некранутага лесу. Побач жытняе поле. Дагарае вогнішча. У тэксце песні нічога няма пра зязюлю, але ў выкананні яе ансамблем "Песняры" (у першым варыянце аранжыроўкі) гучыць і голас зязюлі. А гэта вельмі важна. Музыкант-аранжыроўшчык уявіў іменна раніцу, а не кароткую купальскую ноч. Далей ужо наша фантазія малюе такую карціну: з лесу вяртаюцца юнакі і дзяўчаты, якія шукалі папараць-кветку. Яны стомленыя і шчаслівыя. Бывай, Купалле! Чакай нас у наступным годзе на гэтай жа лясной паляне...

У выкананні ж гэтай песні жаночым квартэтам "Купалінка" такой карціны я стварыць не магу, нягледзячы на ўсе намаганні маёй фантазіі. Няхай даруюць мне гэтыя мілыя і галасістыя дзяўчаты, але адчування свята няма, і ў тым не іх віна. Проста вычварныя дысанансныя мадуляцыі, не ўласцівыя народным песенным традыцыям, заводзяць маё ўяўленне далёка ад купальскай раніцы на лясной паляне.

На вялікі жаль, і славуты ансамбль "Песняры" ў апошні час пачаў адыходзіць ад свайго першапачатковага накірунку, і апошнія аранжыроўкі такіх песень, як "Ой, рана на Івана", "А ў полі вярба нахілёная", "Касіў Ясь канюшыну" і некаторых іншых, як мне здаецца, меней удалыя, чым у першым варыянце. Менш стала так званага нацыянальнага каларыту, нягледзячы на вытанчанасць выканання.

Народная песня — гэта візітная картка кожнага народа. Мы добра ведаем, што ў нас сёння чытае моладзь, якія песні спявае і слухае. Дайшло да таго, што запісаў класічнай музыкі і народных песень у аддзелах грампласцінак проста няма. Яны зніклі гэтак жа, як з кнігарань знікла добрая літаратура. Усе пастановы і дадатковыя меры "па спыненні на тэрыторыі рэспублікі прапаганды парнаграфіі, культу насілля і жорсткасці" трэба ўспрымаць толькі як спробу неяк "падмітусіцца". Самыя цвёрдакаменныя дзяржаўныя апоры можа пахіснуць нават адзін чалавек, чаму ўсе мы з'яўляемся сведкамі. Але вынікі шматгадовага духоўнага ўціску такіх "апор" застаюцца надоўга.

**Анатоль ЦЫРКУНОЎ**

Фестывалі

# УСЕ ЛЯЛЬКІ Ў ГОСЦІ ДА НАС

Спектаклем "Загубленая душа, альбо Пакаранне грэшніка", у аснову якога Віцебскі тэатр лялек паклаў творы Я. Баршчэўскага, у панядзелак, 15 мая, у Мінску быў урачыста адкрыты III Міжнародны фестываль лялечных тэатраў. Першае аналагічнае мерапрыемства, як вядома, прайшло ў 1990 годзе, другое — два гады назад, пасля чаго мінскі фестываль быў уключаны ў лік найбольш прэстыжных фэстаў адпаведнага профілю ва ўсім свеце.

На сёлетні фестываль у сталіцы нашай дзяржавы сабраліся калектывы з Англіі, Германіі, Італіі, Фінляндыі, Францыі, Расіі, Украіны і, безумоўна, усе лялечнікі Беларусі.

Усяго на працягу тыдня (завяршальныя акорды гэтага свята — сёння) адбылося калі дваццаці прадстаўленняў. Як для дзяцей, так і для дарослых. Прынамсі, і згаданы спектакль віцябчан таксама адрасаваны ім. Што ж, у гэтым нічога дзіўнага. Майстэрства лялечнікаў такое, што яно здаўна прыцягвае самую розную аўдыторыю, дорачы ёй, радасць, магчымасць сустрэчы з чымсьці загадкавым, таямнічым.

А праходзілі спектаклі на малой і вялікай сцэнах Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы, Маладзёжнага, тэатра юнага гледача і, безумоўна, у самім тэатры лялек. Адбыліся і выязныя спектаклі. У бальніцах, дзіцячых дамах, школах-інтэрнатах мерапрыемствы праходзілі бясплатна.

І яшчэ адна адметнасць сёлетняга фестывалю. Праходзіў ён без... журы. А ў выніку ў выйгрышы аказаліся ўсе. І самі ўдзельнікі, якія ў цёплай, сардэчнай атмасферы змаглі паказаць на што здатныя, і гледачы, якія адкрылі для сябе магчымасць сустрэчы з сапраўдным мастацтвам.

# У КІНО — ЖАНОЧАЕ АБЛІЧЧА

Трэці раз праходзіць Міжнародны фестываль жаночага кіно, арганізатарам якога стала жаночая студыя "Таццяна". На ім прадстаўлена звыш 60 мастацкіх, дакументальных і анімацыйных стужак, аўтарамі якіх з'яўляюцца жанчыны са Злучаных Штатаў Амерыкі, Германіі, Швейцарыі, Аўстрыі, Галандыі, Фінляндыі, краін так званага блізкага замежжа і, вядома, з Беларусі.

Цэнтрам правядзення фестывалю стаў сталічны кінатэатр "Масква", а суддзямі, як і ў час папярэдніх фестываляў, мужчыны. Узначальвае журы знакаміты кінарэжысёр Валерый Рубінчык.

Думаецца, разабрацца, хто дасягнуў большага майстэрства, журы будзе не так і проста. І госці прыехалі, зразумела, са сваімі лепшымі работамі. Ды і "свае" годна прадстаўляюць беларускае кіно, а яно, у дадзеным выпадку, зразумела, жаночае...

Прынамсі, у праграме фестывальнага паказу значацца такія стужкі, як "Пяць хвілін да кахання" Э. Міловай і І. Пісьменнай, "Палюбі мяне чорненькім" Г. Адамовіч, "Крывыя вечары" З. Мажэйкі і іншыя.

Фестываль прадоўжыцца да 20 мая.

# ХОЦЬ І ВЫХОДЗІЦЬ РЭДКА...

Даўно мае свайго чытача газета "Беларускі калекцыянер", заснаваная яшчэ ў 1990 годзе. Нядаўна пабачыў свет яе здвоены першы-другі нумар за сёлетні год, а ўвогуле — дванаццаты-трынаццаты. Адкрывае нумар артыкул Л. Коласава "У гонар юбілею паўстання 1794 года". Гаворка ў ім ідзе аб тым, як 200-годдзе гэтага паўстання адзначана філатэлістычнымі выстаўкамі і паштовымі выпускамі ў Польшчы. Адначасова згадваецца, што рабілася ў гэтым кірунку і ў іншых краінах. Прынамсі, летась прайшла філатэлістычная выстаўка ў Чыкага, а на ёй поруч з іншымі спецыяльнымі штэмпелямі выкарыстоўваўся штэмпель, у малюнку якога быў партрэт нашага славутага земляка, юбілейны тэкст па-англійску, а пад партрэтам подпіс: "Генерал Касцюшка".

Пазнавальны артыкул Ю. Васілеўскага і А. Сёмухі "Да гісторыі серыі марак "Беларусь. Пошта". Маюцца на ўвазе тры маркі, што ў 1921 годзе былі аб'яўлены ў Коўне (Каўнасе)"па-за законам". Дарэчы, у гэтым жа нумары прыводзіцца тэматычны план выдання беларускіх марак на сёлетні, 1995 год, а таксама паведамляецца пра выхад паштовай серыі, прысвечанай паўстанню Т. Касцюшкі, выпушчанай у нашай дзяржаве.

Фантазія калекцыянераў, як кажуць, межаў не ведае. Чаго яны толькі не збіраюць?! А. Карлюкевіч, напрыклад, — запрашэнні на розныя мерапрыемствы. Сваім захапленнем ён дзеліцца ў нататцы "Таямніцтва кветка".

Ёсць у нумары і перадрукі з іншых выданняў. Прыемна, што не абыдзены і "ЛіМ". Са штотыднёвіка ўзяты матэрыял Г. Сібілы "Людзям прыгаство", у якім закранаюцца пытанні, звязаныя з выпускам і распаўсюджваннем беларускай мастацкай паштоўкі.

У Мінску "Беларускі калекцыянер" заўсёды можна набыць у кіёску Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, што знаходзіцца па праспекце Ф. Скарыны, 20.

# “КАЛІ ДЫХАЦЬ І ЖЫЦЬ НЕМАГЧЫМА...”

Невымоўна блага Максіму Танку. Палыновая гаркота страт і няшчасцяў, нягод і расчараванняў, якія апошнім часам гэтак неміласэрна абрушыліся на і без таго схварэлага паэта, моцна падбіла яго здароўе, па-жывому раскроіла душу і сэрца. А тут яшчэ вядомыя грамадска сацыяльныя хлюпата і бязладдзе, вэрхал і сумятня, хісткая няпэўнасць лёсу Беларусі, яе будучыні, духоўная і матэрыяльная нішчымніца... Віхурыстыя падзеі аглаўшваюць з кожным разам усё новымі і новымі праблемамі і бедамі, якія, як і заўсёды ў яго, прымаюцца дужа блізка да сэрца.

Зусім абцяжарыла і абяссэнсіла жыццё нядаўняя смерць жонкі Любові Андрэеўны, якая была верным сябрам і памочнікам яшчэ з часоў даваенных. “Аніяк нічога не пішацца.., — скрушліва прызнацца Яўген Іванавіч. — Не спаў сёння аж да раніцы, рабіў перавязкі... Як мне цяпер быць, без яе?.. Каб не яна, я б прапаў у свой час...”

Наша гаворка не сказаць каб дужа жвавілася. На тое было занадта багата прычын і акалічнасцей. Што можа суняць боль, улагодзіць душу паэта? Наколькі мажліва гэта наогул пасля адыходу жонкі, смерці дачкі, зяця, шэрагу блізкіх сяброў і таварышаў?.. У прыкметна ацяжэлым голасе суседнічаюць то індэферэнтная развага і цвярозлівы халадок, то журботлівая скруха і шчымліва-балючая роспач, адмабілізаваная цвёрдасць вынашанага пераканання змяняецца характэрнай утрапёнасцю, пяшчотнасцю і далікатнасцю танкаўскага выслоўя.

Зрэдчас лаўлю сябе на тым, што гэта ўжо не толькі ці не столькі аповяд для мяне, адказ на мае даўнія зацікаўленні, а роздум сам-насам, размова з самім сабою, успамін наогул. На паэта нахлынула тое, што прыходзіла дасюль хіба толькі ў рэдкую часіну, чыя сапраўдная вагомасць і глыбінны прычынна-выніковы змест спазнаюцца зараз, у хвіліны горкай адзіноты і памрочлівай тугі. Думкі-ўспаміны няспешна сягаюць па дзесяцігоддзях, апярэджваюць адна другую, наслойваюцца, перапляталюцца між сабой. Бачу, перад яго вачыма — усё яго жыццё, увесь пакручасты і выбоісты шлях.

Вось ён, дашчэнту згаладнелы падпольшчык, абкладзены з усіх бакоў дэфензівай і шпікамі, таемна начуе-хаваецца на дрывотні бацькоў сваёй будучай жонкі; вось, па-юначы наіўна верачы, што яго там стрэнуць з чулай спагадай і радасцю суперажывання, безуважны да рашэння кампартыйных структур, досыць саманадзейна пераходзіць польска-савецкую мяжу, адразу патрапляючы ў вязніцу; а гэта ў ліку іншых літаратараў складае вядомае пісьмо ад заходніх беларусаў “бацьку народаў” Сталіну: гутарыць адносна праблем грамадскага жыцця і літаратуры з кіраўніком рэспублікі П. Машэравым; турбоіцца ў кабінеце старшыні КДБ Беларусі аб лёсе, магчымым пераездзе ў СССР заходнебеларускага дзеяча Язэпа Найдзюка... Божа, колькі ўсяго за плячыма, колькі пройдзена, перажыта, выпакутавана! Пра ўсё гэта яшчэ трэба гаварыць і пісаць.

Мы толькі сёння з немалымі высілкамі адкрываем для сябе імёны Адама Станкевіча, Антона Луцкевіча, Барыса Кіта ды іншых дзеячаў, падступаемся да належнага асэнсавання іх укладу ў нацыянальную гісторыю і культуру, а ён жа жыў, тварыў сярод іх, кантактаваўся з імі. Усвядоміш усё гэта і злякнешся ў вусцішнай страхотлівасці ад думкі — хто перад табою...

Яўген Іванавіч бядуе, што не здолеў правесці ў апошнюю дарогу Пімена Емяльянавіча Панчанку, свайго сабрата па пяры і даўняга сябра. “Я ж з ім адным шынялём накрываўся. Усё жыццё мы сябравалі, яшчэ з 1940 года, калі ён служыў у Беластоку. Светлы быў чалавек, выдатны паэт...” Доўга ўглядаецца ў апошнія здымкі П. Панчанкі, змешчаныя разам з яго інтэрв'ю ў газеце “Культура”.

Міжволі ўражваюць і высокія маральныя ўрокі, духоўная культура выдатнага паэта. Я ведаю, Яўген Іванавіч доўгі час ляжаў у лякарні, быў у надзвычай цяжкім стане, перанёс некалькі пераліванняў крыві. Дарэчы, там і заспела яго смерць Любові Андрэеўны. Падчас адной з размоў ужо дома ён выдыхнуў: “Буду паміраць тут...” І вось зараз, са стымулятарам сэрца, так і незагоенымі язвамі на нагах, ён, зусім знямоглы, сядзіць за сваім рабочым сталом і тым не менш, ведаючы пра маё нездароўе, пытае, як самаадчуванне. На вочы мае неслухмяна нагортваецца горкашчымлівая пампрока... Як далёка да ўсяго гэтага многім з нас, маладых, як не ўласціва тое некаторым з тых амбітных “наватараў”, хто, намагаючыся рабіць “новую” літаратуру, безуважна і аблегчана адносіцца да духоўнага вопыту і багатай творчай спадчыны “канфармістаў”, старэйшых пакаленняў пісьменнікаў, а то і зусім адмаўляе іх...



“І мне трэба рабіць аперацыю, — сцішана прамаўляе Яўген Іванавіч, — нават абавязкова, але наўрад ці вытрымаю. Ды і рана ўжо не зажыве...” Колькі ў гэтых словах разважлівага спакою і жыццёвай умудронасці... Паэт не цешыць сябе спадзеўкамі на тое, што ўсё неяк умажлівіцца і налагодзіцца. Вырак яго сам сабе бязлітасна суровы і няўцешны: “Не, наўрад. Не было б горай...”

Так, Максім Танк пражыў вялікае жыццё, прымусіўшы за дзесяцігоддзі сумленнай і плённай працы паважаць сябе старых і маладых, левых і правых, “канфармістаў” і дэмакратаў, зманкуртызаваных і нацыянальна свядомых беларусаў. Яго нельга не паважаць, не магчыма не захапляцца. Чалавечы і творчы дар яго ад Бога, ён усеабдымны, чысты і светлы, дасканалы. Адстойваючы прынцыпы дабра і людскасці, высокай духоўнасці і маралі, яго паэзія ўтварыла шырокае камунікатыўнае поле; яна годна слугавала і будзе слугаваць многім пакаленням беларусаў.

І тая, якая ахвярна галубіла парасткі справядлівасці і волі, развогнівала змагарскі рух народа на заходніх абшарах Беларусі. І тая, якая яскрава ўвідавочыла “крывавы чад” і гаркоту ваеннага ліхалецця, шмат у якіх выпадках увасобіўшыся ў якасці актыўных яго чыннікаў улёткі і заклёну. І тая — павівальнай бабкай яе сталі ўжо вядомыя застойныя гады, — якая, адгукліва рэагуючы на прылівы і адлівы грамадска сацыяльных працэсаў, актыўна сягала ў сутонлівыя глыбіні рэчаіснасці, поспех здабывала аналітычна-медытатыўным асэнсаваннем яе супярэчлівых праяў, будучы далёкай ад глыбакадумна-тамлівай, малакроўнай паэзіі некаторых з сённяшніх “мысліўцаў”.

Яна — не толькі наша гісторыя. Вызначаючыся праблемна-тэматычнай, жанравай і стылёвай багатасцю, паэзія Максіма Танка актыўна прысутнічае і будзе прысутнічаць у нацыянальным літаратурным працэсе, шмат у чым стымулюючы і дынамізуючы яго.

Чытаю і перачытваю творы паэта з апошняй кнігі “Мой каўчэг” і выразна чую голас меднаствольных соснаў, перуновае разгоністае рэха над борам, бачу зіхатлівы бляск нарачанскіх хваляў, кудзелістыя хмары над возерам... Пры кожным эмацыянальна-пачуццёвым дотыку да іх гоіцца душа, дужэе вера, прыбываюць сілы...

Перад табою, дарагі чытач, жменька самых апошніх вершаў народнага паэта. У ліку іншых яны неўзабаве будуць надрукаваны ў часопісе “Полымя”. Аднак — ці можна чакаць, ці ёсць маральнае права на тое, калі душа заходзіцца слязою?..

У іх — нясцерпны боль і трывога, пакута і цяжкі роздум, мудрая перасцярога і просьба сумленнейшага беларуса, які ўсяго сябе дарэшты аддаў справе служэння роднай зямлі. Не стрэнеш тут збуцвелага слова або нікудышняй думкі, гэтаксама як і фальшывай інтанацыі або паказнога жэсту. Анічога няма ў іх ад выпадковасці ці хоць бы неабавязковасці. Няма тут як гняўлівага абурэння і ваяўнічага патрабавання, так і крыклівых скаргаў на цяжкія страты і фізічную немач. Усё натуральна, глыбока, па-народнаму мудра.

Пераканаы, гэтую невялічкую нізку з даўкім камяком у горле і смугою на вачах прачытае кожны з нас. Яна абзавецца ў душах сучаснікаў на згоне стагоддзя глыбокай павагай і любоўю да паэта, чуласцю і спагадай, гонарам за Радзіму, якая нараджае такіх сыноў.

**Мікола МІКУЛІЧ**

---

Максім ТАНК

## АПТЫМІСТЫЧНАЯ РЭЗІГНАЦЫЯ

**Да раю — грахоў**
**Не пускаюць завалы,**
**Да пекла — нібыта**
**Яшчэ іх замала.**

**Ну, што ж, і далей,**
**Знаць, пакутваць трэба**
**Між пеклам і раем.**
**Зямлёю і небам.**

**Мне не прывыкаць,**
**Ветэрану, якому**
**Ў жыцці не такія**
**Вандроўкі вядомы.**

•

**Калі горыччу**
**перапоўнена сэрца**
**І дыхаць і жыць немагчыма, здаецца,**
**Заўжды ўспамінаю**
**сасну**
**над абрывам,**
**Падсечаную нарачанскім прылівам.**
**Сасну, што трымаецца**
**рэшткай карэння**
**За грунт,**
**а вяршыняй сваёю высокай**
**Да сонечнай**
**цягнецца**
**высі паднебнай,**
**Над тонню смяротнай**
**калыша аблокі.**

•

**Малю: не спяшы, літасцівы, з'явіцца**
**На грэшную нашу зямлю,**
**нейкім цудам**
**Ачысціць яе ў вогненных бліскавіцах**
**Ад недаравальных грахоў і ад блуду,**

**Бо покуль яшчэ фарысеі**
**ў нас правяць,**
**І топчуць, разбіўшы,**
**святыя скрыжалі.**
**Каб зноўку, замест ліхадзея Варавы,**
**Другі раз цябе на крыжы не распялі.**

## ЛЯ ЗАМЕЖНЫХ ПАСОЛЬСТВАЎ

**Ля замежных пасольстваў**
**Тлумы візаў чакаюць.**
**Атрымаў.**
**Распісаўся.**
**І ты — ужо ў раю.**
**За палямі, лясамі,**
**Другім небакраем.**
**Можаш не наракаць**
**На Радзіму сваю.**
**Можаш маці забыць,**
**Што цябе ад калыскі**
**Гадавала ў пакутах,**
**Вучыла, як жыць...**
**Настальгія прачнецца?**
**Дык шклянкаю віскі,**
**Як і ўсе, пастарайся**
**Яе пагасіць.**

**А не ўдасца — пішы.**
**Мо цябе не забылі**
**Тыя, што з табой**
**Некалі разам раслі.**
**І прасі, каб прыслалі**
**Табе на магілу**
**Хоць бы жменьку**
**Пакінутай роднай зямлі.**

## ВЯРТАННЕ

**Нарэшце**
**Вяртаюцца нашы салдаты**
**З замежжа дадому.**
**На кожным прыстанку**
**Праводзяць мясцовыя людзі:**
**Адны — па-сяброўску,**
**Другія — па-воўчы.**

**Гулкім рэхам мінулай вайны**
**Звіняць струны рэек,**
**Мастоў,**
**Тэлеграфных дратоў.**
**Ім літаўрамі ўтораць**
**Саставаў цяжкіх буфяры**
**Ад Влтавы і Шпрэі,**
**Дуная і Віслы**
**Да Буга,**
**Дняпра**
**І да Волгі...**

**Не пякельным агнём,**
**А вясёлым і мірным суквеццем вясны**
**Палымнеюць ствалы**
**Аўтаматаў,**
**гармат**
**І ракеты.**

**Нарэшце**
**Вяртаюцца нашы салдаты**
**З замежжа дадому!**

**Шкада, што яшчэ тут**
**Сям-там застаюцца**
**Спрафанаваныя нелюдзьмі,**
**Помнікі, абеліскі герояў,**
**Магілы,**
**магілы,**
**магілы**
**Савецкіх салдат.**

**На ўсякі выпадак,**
**Панове, камрады, драўгасы,**
**Саўдругі, брацішкі.**
**Іх паберажыце!**
**Бо — хто знае:**
**Можа ізноўку трэ будзе**
**“За вашу і нашу свабоду”**
**Яшчэ заступацца...**

## СУСТРЭЛІСЯ З ПАЭТАМ



**Усе мы некалі будзем старымі, хворымі і нямоглымі. Добра, калі ёсць каму паклапаціцца пра нашу старасць. А калі не? Вось і даводзіцца некаторым дажываць свой век у доме-інтэрнаце. У адным з іх — Лагойскім — 260 жыхароў. Аднак не сказаць, каб жыццё іх было аднастайным, будзённым.**

**Калектыў супрацоўнікаў дома-інтэрната, які вось ужо дзесяць гадоў узначальвае Надзея Сямашка, робіць усё магчымае для арганізацыі фізкультурна-аздараўленчай, лячэбнай работы, а таксама культурнага адпачынку. Днямі тут пабываў паэт Мікола Мятліцкі, які выступіў з цікавай прамовай аб лёсе Беларусі, яе будучыні. Прагучалі яго натхнёныя вершы аб Радзіме, маці, нашым агульным горы — Чарнобылі.**

Мікола БУДЧАНІН

*Фота аўтара*

## ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН — ГОСЦЬ ЖАДАНЫ



**І чаканы! Там, дзе справа тычыцца нацыянальнага Адраджэння, змагання за беларускасць. Таму так цёпла сустракалі яго навучэнцы і выкладчыкі Мінскага педагагічнага вучылішча N 1. Удзячныя чытачы прадэкламавалі многія творы паэта. Не застаўся ў даўгу і Генадзь Мікалаевіч. З задавальненнем пазнаёміў прысутных са сваімі вершамі — як ранейшымі, так і новымі. А да ўсяго больш за гадзіну адказваў на самыя розныя пытанні, пакінуў жадаючым аўтографы на сваіх кнігах.**

*Фота У. КРУКА*

## АДНАЧАСОВА І АПОШНІМ

**стаў трэці, майска-чэрвеньскі нумар царкоўна-грамадскага часопіса "Голас часу", які выходзіў з 1989 года раз у два месяцы ў Лондане. Усяго пабачыла свет 36 нумароў. А прычына спынення выдання даволі празаічная: "Часопіс выходзіў захадамі двух асоб і вось адзін з іх, тэхнічны супрацоўнік, па сваёй старасці, мае ўжо досыць гэтай работы, а новага нікога няма, хто мог бы яго заступіць. Таму "Голас часу", пражыўшы поўных шэсць гадоў, міма свае добрае волі, спыняе далейшы выхад".**

**Адкрываецца нумар паведамленнем "Візіт у Лондан дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі". Змешчаны артыкулы А. Мірановіча "Праваслаўнае школьніцтва на беларускіх землях у XVI—XVIII стагоддзях", А. Баханчыка — "Парламенцкія выбары на Беларусі — перамога камуністаў?", Ю. Весялкоўскага — "Хай будзе ўсё адно...", заканчэнне ж яго артыкула "Архіепіскап Мяфодзі і ягоная дзейнасць", развагі Ю. Свяржынскага "Галасы аб "Вялікай Айчыннай вайне" і ўдзел у ёй савецкіх і польскіх партызан", ліст у рэдакцыю М. Белямука, іншыя матэрыялы.**

# У ЧАКАННІ НОВАЙ КНІГІ

## ПРА "АПОШНІ АЎТОГРАФ ЧОРНАГА ДЗЯТЛА" І ІНШАЕ

На гістарычным раздарожжы, у чаканні змены вехаў, калі адна гістарычная рэальнасць ужо адышла ў нябыт, а другая яшчэ не прыйшла ёй на змену, звычайна абуджаюцца розныя эсхаталагічныя прадчуванні і прадказанні. Так і цяпер, на зыходзе стагоддзя, на парозе новага. Чуюцца і прароцтвы аб хуткім літаратурным апакаліпсісе. Ёсць, здаецца, і грунт для такіх песімістычных прагнозаў, прэстыж літаратуры, асабліва паэзіі, увачавідкі падае, мастацкая кніга пад ціскам навукова-тэхнічнага прагрэсу з крыніцы духоўнага і эстэтычнага ўзбагачэння ўсё больш ператвараецца ў адзін са сродкаў інфармацыі. У паветры пераможна носіцца ідэя камп'ютэрнай літаратуры.

Але прагнозы падобнага роду — справа няўдзячная. Ці варта загадзя аплакваць літаратуру ў чаканні яе хуткай смерці, калі здаровы сэнс, зыходзячы з сутнаснай прыроды мастацтва, падказвае, што сапраўдная, самабытная літаратура жыве і будзе жыць — пакуль жыве чалавецтва. Бо невычэрпныя яго духоўныя запатрабаванні. Бо нішто не можа замяніць унікальнасць мастацкага слова.

Жывучасць беларускай літаратуры, як і ўсялякай іншай, відаць, абумоўліваецца тым, што яе твораць пісьменнікі розных пакаленняў — ад самага старэйшага і да тых, хто толькі-толькі заваёўвае сабе месца на літаратурным небасхіле. Хіба творы маладых — А. Федарэнкі, У. Сцяпана, А. Глобуса, С. Дубаўца, П. Васючэнкі, А. Бадака і многіх яшчэ, не названых тут, не засведчылі пладаноснасць нашага літаратурнага дрэва? Можна шмат гаварыць аб надзеях і спадзяваннях на маладых, аб невычэрпнай творчай энергіі шасцідзесятнікаў, т. зв. філалагічнага пакалення пісьменнікаў, але, думаецца, пра глыбіннасць крыніц нашай літаратуры найбольш уражліва сведчыць творчасць тых, хто пачаў свой шлях яшчэ ў перадваенныя дзесяцігоддзі і зведаў на сабе ўвесь драматызм савецкай гісторыі, якая цяжкім катком прайшлася па іх жыццях.

Мушу прызнацца: калі на старонках перыёдыкі я знаходжу даўно знаёмыя імёны С. Грахоўскага, М. Лужаніна, А. Звонака, П. Пруднікава, М. Танка, В. Віткі, Э. Агняцвет, мяне заўсёды цягне прачытаць іх творы, бо я не магу не захапляцца трывушчасцю, нязломнасцю іх духу, непадуладнасцю цяжару гадоў і злым варункам лёсу, невычэрпнасцю іх творчага патэнцыялу. Не забудзем, што большасць з іх прайшла цярністымі шляхамі гулагаў, але і тыя, каму пашчасціла, так ці інакш "таўраваны", паводле выразу Віткі, трыццаць сёмым. Бо тое, што тады адбывалася, не магло не пакінуць чорнага следу ў іх душах.

Маю ўвагу найбольш прыцягнулі публікацыі Васіля Віткі ў "ЛіМе" на працягу 1992—1994 гг. і ў "Полымі" (1993, N 10, 1994, N 5). Чаму менавіта яго? — можа ўзнікнуць пытанне. Таму, найперш, адказваю я, што творы пісьменніка хаваюць у сабе асабліва прыкметны запас трываласці і жывучасці мастацкага слова, бо жывяцца адразу з дзвюх крыніц — "дарослай" і "дзіцячай" літаратур. Адвечна-дзіцячая струна, якая нястрымна гучыць у душы паэта, агучвае абедзве яго Музы, і кожная з іх узбагачае адна другую. Публікацыі з не надрукаваных яшчэ кніг "Апошні аўтограф чорнага дзятла", "Дзеці і мова" якраз і сведчаць, што творчасць паэта (пасля таго, як было напісана ім стаўшае класікай "Вавёрчына гора") працягвае развівацца па дзвюх паралельных каляінах, якія, насуперак геаметрычным законам, часам перакрыжоўваюцца, сыходзяцца на шляху да сваіх адрасатаў. А ў цыкле апавяданняў "Ранічкай на Свіслачы" ("Полымя", 1994, N 5) аўтар выступае ў гэтых дзвюх сваіх іпастасях адначасова, знітоўваючы ў адно бачанне дзіцячае і дарослае.

Што новага ўносіць час у мастацкую самасвядомасць паэта? Ці заўважны паступальны рух яго мастацкай думкі? Або гэта рух па законах затухальнай інерцыі?

Першае агульнае ўражанне — са старонак публікацый нам бачыцца ранейшы Вітка, улюбёны ў народную словатворчасць, праціўнік знешняй патэтыкі, эфектных слоў, зададзенасці, паэт непадробны, са сваім болем за бацькаўшчыну-Беларусь і яе драматычную гісторыю, з матывамі, якія абагульнена-паэмна былі ўвасоблены яшчэ ў "Беларускай калыханцы", а цяпер у вершах "Пакаянная малітва Белай Русі", "Белая ружа" і інш. Разам з тым на творах ляжыць і прыкметны адбітак сучаснага светабачання, у якім адчуванне канца стагоддзя ўзмоцнена асабістымі перажываннямі паэта на схіле жыцця, калі наступае час падрахункаў і самаспраўдзач перад сваім сумленнем, перад блізкімі, нарэшце — перад грамадствам. Усё гэта афарбоўвае творы элегічнай танальнасцю. Самі творы сталі больш аўтапартрэтнымі ў тым сэнсе, што іх біяграфічная супрычыненасць выказваецца з большай адкрытасцю і шчырасцю ("Moriar Stando", "Перад тваім партрэтам", вершы з прысвячэннямі, апавяданні "З дзённіка лета—92").

Натуральна, што чым даўжэйшы шлях праходзіць мастак, тым мацнейшае ў яго жаданне падвесці душэўны падрахунак і падзяліцца вынікам са сваім чытачом, блізкімі, паспавядацца. Такой шчырай спавядальнасцю адзначаны верш "Пясочны гадзіннік" з падзагалоўкам "Элегія".

"Пясочны гадзіннік" — разгорнутая метафара, сімвал хуткаплыннага часу, марна растрачанага, і глыбокага расчаравання ў ранейшых ілюзіях і міфах, што навязваліся звыш і прымаліся як неабвержныя ісціны ў апошняй інстанцыі, без ваганняў і роздуму.

**О, час прапясочаных, нас**
**Праверанных і прававерных калісьці!**
**Мала хто і паверыць цяпер,**
**Як прагна мы дападалі да ісцін —**
**І лёгка, і проста,**
**А галоўнае — напавер.**

"Пясочны гадзіннік" — гэта і метафара свайго асабістага, дарма пражытага жыцця, якое пачаўшыся "з нуля", нулём быццам бы і завяршылася, на думку аўтара. Але ці не занадта суровы і бескампрамісны паэт у сваіх самаацэнках, спавядаючыся перад нашчадкамі? Ці няма тут мастацкага завастрэння прыёму самаіроніі — у процівагу самаздаволенасці, якой нярэдка паддаюцца іншыя творцы і якой не падуладны сам Вітка? Так, элегічны настрой, традыцыйна ўласцівы жанру, прыпраўлены тут горкім гумарам і іроніяй да самога сябе, падманутага, легкавернага, невідушчага (відушчым ён стаў пазней), які "па плану", "пяцігодку за пяцігодкай" "перажываў", "перажоўваў" свае "перажыткі".

Прыхільнасць Віткі да метафары вядомая здаўна. Яшчэ ў "Азбуцы душы" ён пісаў: "Я рад, што і ў познія свае гады асабліва люблю і адчуваю ўладу метафары". І гэта сапраўды так. Чорны дзяцел, птушка на зводзе, — ці не сам гэта паэт, які піша "дзеля дзятлавай кнігі, Быць можа, аўтограф апошні"? Вершы, прызначаныя для гэтай кнігі, уяўляюць сабой невясёлы роздум пра мінулае і сённяшняе, спробу паэтычнага асэнсавання тых вялікіх драматычных перамен, што адбыліся з краінай, грамадствам і чалавекам на нашых вачах.

Пільна ўглядаючыся ў сённяшнюю непрыглядную рэальнасць, валодаючы абвостраным пачуццём сучаснасці (вершы "Рай", "Рэклама", "Энерганосьбіты"), маючы за сваімі плячыма вялікі, але неадназначны жыццёвы вопыт, паэт імкнецца не толькі пераасэнсаваць свой уласны пройдзены шлях, але і глыбей пранікнуць у разгадку чалавечага "я" наогул, у прыроду чалавека, у неразгаданыя таямніцы быцця. Адсюль і новы зварот да эпічнага, паэмнага асэнсавання падзей, да біблейскіх матываў, магіі лічбаў — усяго таго, што можа дапамагчы чалавеку, выхаванаму ў савецкі час, дакапацца да нейкіх важных, нябачных легкаважнаму позірку законаў быцця, прычынна-выніковых сувязей, якія вызначаюць ходу гісторыі. Я маю на ўвазе паэмы "Каін" ("ЛіМ", 12.2.93) і "Сем" ("ЛіМ", 30.9.92).

Задума "Каіна", як паведамляе сам аўтар, адносіцца яшчэ да 1979 года, калі склаўся сюжэт "Пасланцу з космасу", што стаў завяршальным раздзелам паэмы. Значыць, ужо тады думалася паэту пра тое ж самае, значыць, творчы імпульс — падступіцца да разгадкі трагедыі быцця — выспяваў паступова і не з'яўляецца данінай модзе.

Гісторыя і сучаснасць ("Першая хроніка быцця" і "Апошняя хроніка быцця") паўстаюць у паэме як рэальнасці міфалагічныя. Паміж першай і апошняй хронікамі (ад біблейскіх часоў да перабудовачных гарбачоўскіх) пункцірам прачэрчана пакручастая гісторыя савецкай Беларусі.

Што дае аўтару зварот да Бібліі? Дакрананне да вечнасці, адчуванне законаў гістарычнай пераемнасці, калі ствараецца суцэльнае поле чалавечага быцця з адвечнай барацьбой дабра і зла, вернасці і здрады, любві і нянавісці. Праз міфатворчасць лягчэй усведамляецца рух гісторыі. Падзеі савецкай гісторыі, персаніфікаваныя ў яе дзеячах, правадырах, з аднаго боку, і біблейскія вобразы і матывы, з другога, зведзеныя ў адным рэтраспектыўным фокусе (асноўная метафара паэмы: Сталін гэта Каін) прымушаюць задумацца аб прыродзе чалавека і яго ўлады над сабе падобнымі.

Думаецца, аднак, што занадта яшчэ свежыя, афарбаваныя злабадзённасцю ўражанні і ўяўленні паэта ад таго, што дзеелася і дзеецца, каб магло спраўдзіцца пушкінскае "Служенье муз не терпит суеты", каб абстрагавацца ад усяго часовага, сітуацыйнага, пераходнага і дасягнуць глыбінь у спасціжэнні трагічных загадак гісторыі. Для гэтага патрэбна, відаць, і пэўная аддаленасць, "отстраненность" ад падзей, якая можа надаць умудронасць, вынашанасць аўтарскаму погляду. Але сімптаматычны ўжо сам па сабе аўтарскі зварот да стварэння менавіта такога роду эстэтычнай рэальнасці.

Паэма "Сем" пабудавана на сімволіцы лічбаў (пераважна — магічнай сямёркі), якая існуе ў прыродзе незалежна ад волі чалавека і хавае ў сабе нейкія патаемныя універсальныя, касмічныя законы. Сапраўды, якая неразгаданая таямніца, сем дзён тыдня, сем дзівосаў свету, сем колераў вясёлкі, сем нотаў, сямізор'і Малой і Вялікай Мядзведзіцаў, сяміпалая далонь каштана і ясеня... А прыказкі, якія не без захаплення прыводзіць аўтар: адзін з сошкаю, сямёра з лыжкаю, сем вёрст да нябесаў, сем пядзяў у ілбе, кніга за сямю пячацямі... І ці простая выпадковасць, што ў чалавека ўсё тое, дзякуючы чаму адбываецца засваенне ім і захаванне інфармаці (зрок, слых, смак, нюх, дотык, прадчуванне, памяць) таксама вызначаецца лічбай сем? У аўтара тут прачынаецца нават цікаўнасць даследчыка, калі ён, дзеля грунтоўнай навуковай "аснасткі" паэтычнага тэксту, адсылае чытача да "вучоных" зносак.

Відаць, сярод магічнага рада лічбаў, з якіх складаюцца элементы светабудовы (невыпадкова Піфагор гаварыў сваім вучням, што лічба правіць светам), неразгаданы татэм сямёркі (ён прысутнічае і ў

Эсфір ГУРЭВІЧ

Алесь ДЗЯТЛАЎ

# СТРАХ

АПАВЯДАННЕ



У першы раз чорная эмка з'явілася ў вёсцы вясной, калі толькі сышоў снег. Сцішана вуркочучы маторам, яна выкацілася з-за рога царквы, абмінула школу і схавалася на вясковай вуліцы за хатамі. Ужо прыцемнівалася, вяскоўцы займаліся сваімі звычнымі справамі, і ніхто не звярнуў увагі на чорную бліскучую машыну.

Родзіч, дырэктар школы, пасля ўрокаў няспешна цягнуўся гразкай вуліцай, абыходзіў каля платоў лужыны. Ён меўся пагаварыць са старшынёй сельсавета Драпезам пра летні рамонт школы, але калі эмка абагнала яго, вільнула да будынка сельсавета, ён прыпаволіў хаду, няспешна перайшоў на другі бок вуліцы, каб убачыць, хто прыехаў. З кабіны не спяшаючыся вылез высокі, падцягнуты вайсковец, пакіраваў да ганка, другі застаўся за рулём. Было яшчэ светлавата, і Родзіч паспеў разгледзець, што гэта нкусавец, і нешта трывожнае зашчымела ў грудзях. Каб не выдаць, што захваляваўся, нацягнуў на вочы кепку, прайшоў міма сельсавета, павярнуў на сцежку, што віляла за агародамі, і пабрыў да школы.

Каля паўночы машына, бліснуўшы фарамі, пакацілася міма школы на брукаванку, і Родзіч з палёгкай уздыхнуў, пайшоў спаць. Ён ведаў, хто ездзіць у такіх машынах, баяўся гэтых людзей і адначасова паважаў, бо яны заняты важнай дзяржаўнай справай. У газетах чытаў пра выкрыццё ворагаў народа, часам абураўся, як людзі на высокіх пасадах маглі здрадзіць народу, пайсці супраць Савецкай улады. Але ж былі ў яго і сумненні. У суседніх Зубічах арыштавалі дырэктара школы, пасадзілі старшыню сельсавета. Іх Родзіч ведаў і таму не мог даўмецца, якія ж яны ворагі народа. Звычайныя людзі, усё жыццё іх навідавоку. Дык за што бяруць? Гэта думка не давала спакою, але разабрацца, у чым тут справа, не мог, адно імкнуўся маўчаць, не балбатаць лішняе, ды гнёў страх, халодны, ліпучы, слізкі страх, ад якога нікуды нельга схавацца.

Чорная эмка не паказвалася ў Міхевічах усё лета і восень, і той яе прыезд пакрысе пачаў забывацца. Але па першым снезе, яшчэ неглыбокім, пухкім, яна нечакана зноў укацілася ў вёску: бы крадком слізганула міма царквы, абмінула школу і нырнула ў вясковую вуліцу.

Родзіч нёс з дашчанага хлеўчука паленцы, каб прапаліць грубку, з трывогай правёў вачамі легкавік, і ногі сталі нібы ватовыя. Дабрыў да ганка, але вярнуўся, вызірнуў з-за рога будыніны на вуліцу, каб яшчэ раз упэўніцца, што не памроілася яму, машына сапраўды праехала: на дарозе бачыліся два глыбакаватыя, шырокія сляды.

Прыплёўся ў пакой, накідаў у грубку паленцаў, сунуў скамечаную газету і падпаліў. Счакаў, пакуль дровы ўгарацца, прычыніў дзверцы. Жонка абірала бульбу, седзячы на нізкім услончыку, лямпа ярка асвятляла пакой. Родзіч нетаропка выпхнуўся ў калідорчык і ўпершыню мо за апошні час зразумеў, што не можа нічога рабіць, усё валіцца з рук. На ганку ён закурыў, зацягнуўся некалькі разоў, глядзеў, як Нямыцька на лёгкіх санках праз увесь двор возіць у класы дровы.

— Што, Хвёдаравіч, падыхаць выйшаў? — Нямыцька прыпыніўся, выцер рукавіцай з ілба пот.

— Запасаеш? — Родзіч паказаў рукой на санкі.

— Ну як жа іначай, Хвёдаравіч. — Нямыцька глядзеў знізу ўверх на дырэктара, паласа святла з акна падала на ганак. — Ета ж прыцягнуся раніцай, чыркну запалкай — і дроўцы гараць. Да васьмі чын-чынарам, цёпла ў класах.

Ён дробненька захіхікаў, быццам рассыпаў каменьчыкі па падлозе, напружыўшыся, зрушыў з месца санкі і з натугай пацягнуў іх да дзвярэй школы.

Усе ў вёсцы школьнага вартаўніка і апальшчыка Саўку Гаркушу клікалі Нямыцькам, і не дай божа скажы яму гэта ў вочы. Калі хто па дурасці ці няведанні неасцярожна плявузгне, і гэта дойдзе да вушэй Саўкі, то чакай бяды. Саўка пеўнем кінецца на крыўдзіцеля, і хоць лёгкі целам, ды жылаваты, учэпісты. Але Нямыцьку ў вёсцы любілі за вясёлы, таварыскі характар, за чэснасць.

Раніцай, яшчэ цёмна, Родзіч тупаў на ўрокі. Аднекуль збоку нечакана вывернуўся Нямыцька, нямоцна гукнуў:

— Пачакай, Хвёдаравіч!

Ён падшлэпаў бліжэй у сваіх разношаных, велікаватых валёнках, падняўся на дыбачкі і зашаптаў у вуха дырэктару:

— Машына тая Рагулю павезла, яй богу, сам бачыў. У мяне цераз плот сельсавет, я грубкі ўстаў тапіць у чатыры гадзіны, чую — галасы. Я за хлеў шусь, назіркам з-за плота, вуха наставіў. Словы не разабраў, а што ў машыну пасадзілі — точна.

Міма іх прашмыгнула купка вучняў, прайшоў, угнуўшы галаву, настаўнік беларускай мовы Белаконь, пажылы, худы і насаты мужчына — паздароўкаўся, але не прыпыніўся.

— Дык што, Хвёдаравіч, скажаш? — нецярпліва, паўшэптам спытаў Нямыцька. — Што ета значыць?

— Мо растрату дапусціў ці ўкраў што, — знарок абыякава адказаў Родзіч. Павярнуўся і хутка пакрочыў да школьнага ганка, а ў душы ўзнік трывожны непакой, які не пакідаў яго ўвесь дзень.

Рагуля мо трэці ці чацвёрты старшыня калгаса за тыя пяць гадоў, што працуе тут Родзіч. Тырыч, яго папярэднік, яшчэ год назад скеміў, што ў Міхевічах яму не прыжыцца, настроіў супраць сябе людзей і з трэскам вылецеў. І знік чалавек з сям'ёй, і ніякага следу не пакінуў. Падвярнуўся пад руку нарыхтоўшчык з кааперацыі, тоўсты, з чырвоным тварам і маленькімі хітрымі вочкамі, Рагуля. Яго прыцягнулі на сход і выбралі старшынёй. Упарціўся Рагуля, не згаджаўся, не хацелася яму пакідаць хлебную пасаду, але ж партыйны, куды дзенешся. Патузаўся і ўпрэгся ў нямілы воз.

“За што ж яго ўзялі? — думаў Родзіч. — Няпраўду сказаў Нямыцьку, сказаў, каб толькі адвязацца. Органы за растрату і крадзеж не бяруць. Тут нешта іншае. Няўжо і Рагуля прадаўся?..”

У настаўніцкай Родзіч здагадаўся, што сёй-той ведае пра арышт Рагулі. Белаконь яшчэ больш пазмарнеў, нудзіўся ў сваім кутку, дзе стаяў яго столік, моўчкі перабіраў паперы, чакаючы пачатку ўрокаў. Ведаў, пэўна, навіну і выкладчык рускай мовы Булат, хударлявы, невысокі, з капой сівых густых валасоў.

Родзіч баяўся, што раптам нехта пачне гаварыць пра начны выпадак, выказваць свае здагадкі, каменціраваць падзею. Ён адчуваў, што ўсё гэта лішняе, непатрэбнае цяпер, бо хто ведае, як адгукнецца гаворка, калі хто данясе. Ён не сумняваўся, што людзі ў вёсцы будуць гаварыць рознае, але не хацеў, каб якія-небудзь чуткі выйшлі са школы, падагрэлі размовы вяскоўцаў. Знойдзецца ліхі чалавек, накрэмзае паперку, а адказваць давядзецца яму, дырэктару школы. Не, нічога не зменіш, чорны варанок яшчэ прыедзе не раз, і хто ведае, каго павязе.

Пасля ўрокаў Родзіч не вытрымаў, пацягнуўся ў сельсавет. Драпеза сядзеў у сваім кабінеціку адзін, моўчкі сунуўся ў паперы, пад вачамі цёмныя кругі. Ён моўчкі кіўнуў на крэсла, запрашаючы садзіцца, і Родзічу падалося, што старшыня сельсавета не рады яго прыходу.

— Чаго самоцішся, Юзік? — знарок па-прыяцельску весела спытаў Родзіч, быццам не ведаў, што ўзялі Рагулю.

Драпеза ўзняў ад папер вочы, і ў іх, як падалося Родзічу, на імгненне мільганула тужлівая няпэўнасць, ледзь-ледзь прыхаваны страх.

— Ат, што і гаварыць, Мікалай, — Драпеза даланёй адсунуў ад сябе паперы на край шырокага стала, уздыхнуў. — Чуў жа, пэўна, арыштавалі Рагулю.

Ён спасцярожліва скасавурыўся на дзверы, панізіў голас, падаўся наперад, да Родзіча:

— Стаіўся, гад, чакаў свайго часу. А органы раскапалі. І хто б мог падумаць? Цяпер прызнаецца, раскажа пра ўсё, а нітачка далей і пацягнецца. Усю кодлу выцягнуць, тут сумнення няма. А ты што? Ты мо не верыш? Ён жа насеннае збожжа згнаіў. Колькі можна было гектараў засеяць? Сумленныя людзі не дрэмлюць, паведамілі, куды трэба.

Родзіч не пазнаваў Юзіка Драпезу, амаль свайго равесніка, калісь вясёлага, баявога камсамольца. “Ці прыдурваецца, ці гэтак трэба паводзіць кожнаму, каб застацца ў крэсле, каб і самога не тыцнулі пальцам і не сказалі: вораг народа? — думаў Родзіч. — Няўжо за адну ноч чалавек мог пераменіцца? Неверагодна, але факт. Але спачатку ў яго вачах быў страх, няўпэўненасць. Не, не, не памыляюся: Драпеза баіцца. Значыць, трэба-такі іншых, каб не трапіць за краты, душыць, паказваць вернасць уладзе, драць горла — і ты будзеш чысты, як анёл?”

І Родзіч адчуў, як і ў яго халадзее спіна, ліпкі страх працінае ўсё ўсярэдзіне, і ён неўсвядомлена, нейкім інстынктам зразумеў, што трэба цяпер жа, неадкладна падтрымаць Драпезу, інакш і яму, Родзічу, будзе дрэнна; і падтрымаць горача, і гняўліва абурыцца. Ён падхапіўся, падаўся наперад і, блытаючы словы, загаварыў, раптам успомніўшы, што Юзік па бацьку Паўлавіч:

— Ты што падумаў, Паўлавіч? Ды гэтага гада даўно пара было ўзяць. Хітра маскіраваўся! Гладка на сходах гаварыў, а сам павуціну плёў...

Драпеза пасвятлеў у твары, сказаў:

— Я веру табе, я так і думаў, што ты наш. Прызнаюся табе, я і сам трохі пільнасць страціў. Думаў: ну, ачысцілі вёску ад кулакоў — можна расслабіцца, спакойна пажыць. Дык жа з усіх шчылін недабіткі лезуць, і трэба напагатове зброю трымаць. Не, гэтым не скончыцца! Адзін Рагуля нічога не мог бы зрабіць. Хаўруснікаў трэба на свет божы выцягваць...

Родзіч хацеў нешта сказаць, але Драпеза, бы не бачачы, са зласлівай помслівасцю працягваў:

— А ты думаў як? Яшчэ вясной я гэта зразумеў, калі мне органы вочы адкрылі. Пільнасць і яшчэ раз пільнасць, Мікалай. Ты і ў школе паглядзі, хто чым дыхае. Адным словам, момант разумееш, хаця і беспартыйны. Вытрымаем — прымем у нашы рады.

Родзіч з недарэчнай гатоўнасцю кіўнуў:

— Так, так, Паўлавіч, момант я разумею...

Яны развіталіся, і Родзіч ішоў ад Драпезы, адчуваючы, быццам збоч яго глыбокая і цёмная яма, адзін няпэўны крок — і паляціш уніз потырч. Ён ненавідзеў сябе, але не мог пераадолець гнятлівы страх, які сядзеў у душы. “Слізняк, нікчэмны чалавечак! Драпеза хоць верыць, ён ведае, куды ідзе, а ты? І ты ж паверыў, — нечакана секанула думка. — Паверыў?”

Чорнай эмкі пасля гэтага не было тры дні. На чацвёрты яна прыехала пазнавата, а дзевятай гадзіне, бліснула фарамі на школьны будынак, шархатліва пакацілася па вуліцы і прыстроілася каля сельсавецкага ганка. Гэты раз з машыны выйшла двое. Нягледзячы на позні час, вокны будынка свяціліся: Драпезу, відаць, было дадзена ўказанне чакаць гасцей з горада...

Назаўтра ў школе Родзіч прыкмеціў, што няма Белаконя. Яшчэ раз крадком зірнуў на яго столік у кутку настаўніцкай. “Няўжо?.. Значыць, і да школы дабраліся?”. Падышоў да раскладу, які вісеў на сцяне, зірнуў на яго і трохі супакоіўся: сёння Белаконь павінен быў прыйсці толькі на трэці ўрок.

Хвілін за дзесяць да званка ў настаўніцкую ўбег расчырванелы ад марозу і хуткай хады завуч Маторны, распрануўся, павесіў на вешалку кажушок і шапку, весела сказаў:

— Ух, пагодка, круціць пачало. — Абвёў позіркам насупленыя твары настаўнікаў, зухавата прамовіў: — Ну, чаму насы павесілі? Новы год хутка, ёлка будзе...

Маторны пругка падышоў да свайго стала, які стаяў упрытык да дырэктарскага, звычным рухам абцягнуў гімнасцёрку, папраўвіў рэмень. Невысокі, ладны, у наваксаваных да бляску хромавых ботах, у сініх дыяганалевых галіфэ, ён выглядаў маладзей за свае сорак гадоў. На яго пытанне ніхто не адказаў, але гэта не збянтэжыла завуча.

— Ёсць навіна, таварышы, — урачыстым голасам пачаў ён і зрабіў невялікую паўзу. Усе павярнуліся да яго, адны глядзелі з недаўменнем, іншыя са страхам. Родзіч таксама насцярожыўся. А той урачыстым голасам скончыў:

— Праз тыдзень мяне будуць прымаць у рады Камуністычнай партыі, таварышы!

Ва ўсіх быццам адлягло ад сэрца, а Родзіч, ураз аслабеўшы, выціснуў ціхім голасам, хаця меўся сказаць гэтак гучна і ўрачыста, як і Маторны:

— Віншую цябе, Яўхімавіч. Даўно пара.

Пасля ўрокаў Родзіч не затрымаўся ў настаўніцкай, а адразу пайшоў дадому. На парозе яго сустрэла жонка, усхвалявана паведаміла:

— Узялі Кісяля, кладаўшчыка, і Балабана.

— Балабана? — разгублена перапытаў Родзіч. — Дык ён жа зусім хлапчук. Толькі ўлетку паставілі сакратаром сельсавета.

— Балабаніха галосіць на ўсю вуліцу, вадой адлівалі.

“А хто ж наступны? — у роспачы падумаў Родзіч. — Федзя Балабан не вораг, я вучыў яго. Чысты хлопец, савецкі. Дык што гэта дзеецца? І Кісель, вясковы дзядзька. Яго за што?”

Кінуў на лаўку паліто, цяжка прысеў да стала.

— Не разумею, нічога не разумею, што адбываецца, — сказаў пахмурна, гледзячы ў стол. — Трэба маўчаць, Ніна, цярпець. Страшны час.

Не мог сядзець дома, зноў пабрыў у школу. У настаўніцкай за сваім столікам Белаконь правяраў сшыткі. Родзіч апусціўся на канапу, глухім голасам сказаў:

— Бяруць людзей, Кісяля і Балабана ўчора павезлі...

— Ведаю, Фёдаравіч, — уздыхнуў Белаконь, і яго худы твар, увесь у дробных маршчынках, спахмурнеў.

— Рагуля, кажуць, быццам насенне згнаіў, — паведаміў Родзіч. — А нехта стукнуў.

— Не ў насенні справа, — Белаконь уважліва глядзеў на дырэктара, а ў вачах стаяў боль. — Не было б насення, знайшлі б іншае. Не магу зразумець... Калі-небудзь апамятаюцца, ды позна будзе. Тысячы трапяць у гэту мясарубку. Каму гэта трэба? Яму?

— Ты ведаеш, Сцяпанавіч, за гэтыя словы нас...

— Ведаю, Фёдаравіч, — Белаконь уздыхнуў, паклаў на стол акуляры. — Мне няма чаго хаваць. Ты ж ведаеш, быў я дырэктарам школы, а зляцеў. Калі раскулачвалі, прызнаюся табе, запярэчыў упаўнаважанаму з раёна. Дзякуй яшчэ, што кавалак хлеба пакінулі. А мог бы загрымець...

— Прашу цябе, Сцяпанавіч, — Родзіч падхапіўся з канапы, падышоў да стала. — Я веру табе, але не будзем... Адно лішняе слова — і ўсё. Трэба верыць...

— Яму я не веру, Мікалай, — Белаконь панізіў голас да шэпту. — Правадыр усіх народаў, а куды вядзе?

Яны моўчкі разам выйшлі на ганак. Густа падаў снег, бы хтосьці нябачны ўгары скуб гусей. Калі крокі настаўніка зглухлі за школай, Родзіч прыхінуўся да вушака, закурыў. “Чаму ён гэтак

(Працяг на стар. 14-15)

# ТЭАТР ПРАДСТАЎЛЯЕ... ФОТА

Я не змяншаю значэння знакамітае *вешалкі*, але цікавасць гледачоў да яе ўсё ж не такая вялікая, — куды большую ўвагу выклікае партрэтная галерэя тэатра. Знаёмства з ёй — улазіны, уваходзіны ў дом мастацтва, выгляданне ў акцёры героя... Традыцыйны тэатральны партрэт дагэтуль сумленна выконвае ўскладзеныя на яго функцыі. Разняволенасць, салодкія ўсмешкі або празмерна глыбокія погляды ўзвышаюць акцёра над гледачом...

Замяніць састарэлы партрэтны шэраг, выкананы ў стылі 70-х, мастацкі кіраўнік Акадэмічнага рускага тэатра Беларусі Барыс Луцэнка планаваў даўно (канчаткова вырашыў, калі тэатру надалі званне акадэмічны). "На ўсялякі выпадак" запісаны некалькі гадоў назад тэлефон Уладзіміра Шахлевіча і Галіны Маскалёвай вырашыў праблему выбару фотамастакоў. Прыемнае ўражанне ад знаёмства, еднасць поглядаў на многія пытанні, нарэшце, узровень фотаздымкаў дазволілі даверыцца майстрам, прадаставіўшы ім свабоду творчасці. Барыс Луцэнка, як многія іншыя, убачыў выставу ўжо гатовай і... "прыйшоў у захапленне". Партрэты, выкананыя з падыходам да індывідуальнасці акцёра, падаваліся ў аўтарскай эстэтыцы; яе Луцэнка падзяляў і прымаў. У знаёмых абліччах бачыліся не толькі акцёры. Партрэты па-майстэрску скарыстоўвалі светлавыя эфекты і спецыфічныя дэталі. Кожны прадстаўлены ў ракурсе, які ўзмацняе *індывідуальныя асаблівасці асобы*.

Прыблізна так уяўлялі частку задач Галіна Маскалёва і Уладзімір Шахлевіч. А пачыналі майстры са знаёмства з тэатрам. Адчуўшы *шчырасць і прыхільнасць* да сябе, яны лёгка стасункаваліся з трупаю, пераглядзелі спектаклі, адчулі залу як гледачы, а Уладзімір яшчэ як і архітэктар. Магчымасць свабоднай творчасці паступова нараджала ўяўленне аб зместце і афармленні будучага партрэтнага шэрагу. Гэта вялікая і цяжкая праца: перанесці на плоскасць мастацкую эстэтыку ўласнага бачання праз творчую індывідуальнасць акцёраў. Здымаючы плёнку за плёнкай, Уладзімір зрабіў дзесяткі партрэтаў кожнага. Кіраваўся інтуіцыяй — *яна яго ніколі не падводзіла*. *Галіна* аб'ектыўна аналізавала, дапаўняла, прапаноўвала новыя ідэі, варыянты. Матэрыял вылежваўся... Знішчаючы стэрэатып тэатральнага партрэта, мастакі шукалі новы ягоны стыль і вобраз...

Пасля некалькіх удалых рашэнняў узнікла адметная форма падачы ўсяго шэрагу: фотаздымкі складаюцца як бы з дзвюх накладзеных палавінак, сімвалізуючы прафесію і асабістае жыццё акцёра. Галерэя натуральна ўштукавалася ў вобраз самога тэатра. Загучала акордам гармоніі і навізны. Барыс Луцэнка назваў яе творчай работай двух майстроў, у якой вытрыманы маштаб, характар, узровень Акадэмічнага рускага тэатра Беларусі. Куратар амерыканскага Музея прыгожых мастацтваў "Нью-Мексіке" Сціў Йетс, убачыўшы работы з партрэтнай галерэі Шахлевіча і Маскалёвай, адабраў некалькі з іх для экспазіцыі свайго музея, адзначыўшы, што і ў Амерыцы рэкламная фатаграфія ўсё бліжэй становіцца да творчай...

**Людміла ЕЎТУШЭНКА**





*На здымках: работы Уладзіміра Шахлевіча "для Амерыкі": Аксана Первожкіна, Вячаслаў Саладзілаў.*

# СЯМЕЙНАЯ ВЫСТАВА



**У Лідскай мастацкай галерэі працуе выстава дзвюх мастачак — Таццяны і Вольгі Лук'ян (маці і дачка).**

**Таццяна Лук'ян — выпускніца мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педагагічнага інстытута, вучаніца вядомай акварэлісткі В. Ляховіч. У 1988 годзе па размеркаванні трапіла ў Ліду і зараз выкладае ў сярэдняй школе N 14 з архітэктурна-мастацкім ухілам. Муж яе Віктар Лук'ян таксама мастак. У творчай атмасферы сям'і дачка Вольга рана далучылася да мастацтва: яшчэ ў трохгадовым узросце яна пачала маляваць.**

**На выставе Таццяна прадставіла пейзажы і нацюрморты, выкананыя гуашшу, акварэллю, малюнкі алоўкам. З пяшчотай і любоўю апявае яна кветкі, уважліва прамалёўваючы кожную дэталь. Фарбы мякка пераходзяць адна ў другую, зліваюцца ў адну колеравую гаму, поўную гармоніі.**



**А побач — аркушы яе дачкі, дзевяцігадовай Вольгі. Першае ўражанне ад малюнкаў — раскаванасць, натуральнасць адлюстравання. Дзяўчынка быццам забаўляецца лініяй, плямай, гуляе алоўкам і пэндзлікам. І на паперы лёгка ўзнікаюць дрэвы. птушкі, людзі, казачныя гарады... Разуменне дзіцяці, не абцяжаранага яшчэ ведамі, безумоўна, адрозніваецца ад самавыяўлення сталага мастака, заснаванага на прафесійнасці. Таму хочацца, каб тыя веды, якія набудзе Вольга ў далейшым, не "заглушылі" ў ёй творчы пачатак, не абязлічылі талент.**

Ларыса **ДРАКО**

*г. Ліда*

*Таццяна Лук'ян, "Дзве таполі".*

*Вольга Лук'ян, "Малюнак".*

*Фота А. СЕРАБРАКОВА*

# ТУТ ЖЫЎ РЭПІН

**Здраўнёва... Назва гэтая нямала гаворыць кожнаму, хто добра ведае творчасць *выдатнага мастака* Ільі Рэпіна. Але апошнім часам яна на слыху ў многіх і з іншай нагоды. Як вядома, тут, непадалёк ад Віцебска, дзе правёў творца многія гады, адбыўся пажар. Будзем спадзявацца, з цягам часу ўдасца зноў навесці належны парадак. А пакуль у гэты маляўнічы куточак можна завітаць дзякуючы выдавецтву "Полымя", якое выпусціла брашуру А. Падліпскага "Здраўнёва: тут жыў І. Я. Рэпін". Гэтае яе другое выданне, папярэдняе выходзіла на рускай мове. А цяпер вядомы віцебскі краязнаўца дапоўніў свой нарыс, у выдавецтве паруліліся яго перакласці на беларускую мову. А ў выніку пабольшала на яшчэ адну цікавую (і карысную!) кнігу, з шэрагу тых, якія, нягледзячы на ўсе цяжкасці, выпускае згаданае выдавецтва і, прынамсі, шмат рупіцца на ніве нацыянальнага Адраджэння рэдакцыя краязнаўчай літаратуры.**

# ВЯРТАННЕ ЛЕАНІДА КУЗЬМІНА,

## КАНЦЭРТ ЯКОГА ДНЯМІ АДБУДЗЕЦЦА Ў МІНСКУ

***У красавіку год таму яму споўнілася трыццаць. А за тыдзень да гэтай адметнай даты ён вярнуўся з ужо другой па ліку гастрольнай паездкі па Расіі. Вярнуўся? Ці наадварот — ягонае падарожжа ў глыбінную Еўразію сталася нядоўгім вяртаннем да сябе — вяртаннем з ужо звыклай камфартабельнай сумятні Нью-Йорка? Расія... А побач жа, рукой падаць — Беларусь, за празрыстай мяжой, якую захочаш — і пераедзеш, ці цягніком, ці самалётам... Ды вось пытанне: ці чакаюць яго, ці помняць — амерыканскага гамяльчаніна з пшанічнымі кудзеркамі?***





... Кузьміных было двое. Саша — старэйшы гадоў на дзесяць, да часу іх ад'езду ў 1980 годзе закончыў сваю піяністычную адукацыю ў Маскоўскай кансерваторыі. Малодшы, Лёня, на той час быў вучнем дзесятага класа сярэдняй спецыяльнай школы-адзінаццацігодкі (цяпер завецца ліцэем) пры Беларускай кансерваторыі. Як і ягоны брат, Лёня *пачаў свой шлях у вялікі піянізм* пад кіраўніцтвам цудоўнага педагога — незабыўнай Ірыны Аляксандраўны Цвятаевай. Гэта цудоўная жанчына — музыкант школы Аборына, глыбокі метадыст, цікавы лектар, але перш за ўсё — Боскай ласкаю педагог, была з тых нямногіх, хто здольны па-сапраўднаму ацаніць і палюбіць талент свайго вучня, няхай будзе гэта толькі "гарчычнае зерне" музыканцкай своеасаблівасці альбо вялікі, кідкі ды яркі, энергічны талент Лёні Кузьміна, што іскрыцца пад ягонымі пальцамі прыроджанага віртуоза.

Вось толькі лепшыя з яе школьных вучняў заўсёды ад'язджалі давучвацца ў Маскву — не дзеля майстэрства, а дзеля конкурснай кар'еры і іншага. Лёня ад'язджаў інакш: не ў Маскву, куды яго вяла непазбежная дарога "зоркі", увешанай міжнароднымі дзіцячымі і юнацкімі лаўрэацкімі рэгаліямі, а ў Нью-Йорк, быццам на другі бок Месяца, *у краіну, адкуль няма вяртання*. *І раптам* аднойчы ён з'явіўся перад намі, жывы і радасны, як надзея, што збылася. *З'явілася* і спакуса блаславіць тагачасны раптоўны і горкі ад'езд: бо калі б ён апынуўся тады ў Маскоўскай кансерваторыі ўзору 1982 года, арыентаванай на вытворчасць па-камсамольску безадмоўных і бездакорна-правільных "вечных канкурсантаў" з жалезнымі нервамі і стальнымі пальцамі, — ён, відаць, не стаў бы піяністам такога маштабу. Але, з другога боку, усё, што здарылася з ім, — гэта цуд. Цуд, ад якога мы далёкія і ў якім амаль не ўдзельнічаем.

*Першыя тры гады* ў Амерыцы ён "маўчаў": амаль не падыходзіў да інструмента. Працаваў грузчыкам, таксістам. Потым, настояў бацька, была няўдалая спроба "пакарыць" "Juilliard School of Music", якая нечакана-негадана абярнулася вялізнай удачай. А між іншым, сказалі яму, ён можа не без карысці для сябе пазаймацца з адной рускай выкладчыцай. І — накіравалі ў студыю Ніны Святланавай — вядучага педагога Manhattan School. Так вучань І. Цвятаевай трапіў да вучаніцы Г. Когана і Г. Нейгауза, якая выкладала яму незабыўныя ўрокі стаўлення да музыкі, разняволіла і акрыліла... Бо на самай справе гэта не быў "крызіс піянізма"; гэта быў крызіс нашага беларускага падманнага адчування сваёй "правінцыйнасці", сваёй "нецікавасці" для іншых. І гэты крызіс быў пераадолены, па-бетховенску грандыёзным прарывам з цемры — да святла!

*І толькі ў гэтым зіхоткім святле канчаткова* высвятлілася, што музыка — гэта проста паветра, якім дыхаеш, а раяль — толькі сродак для таго, каб прызнацца ў любові ўсім людзям — знаёмым і незнаёмым. А значыць, мяркуе Кузьмін, ягоная ігра павінна перш за ўсё прыносіць радасць слухачу, які сядзіць у зале, — "тут і цяпер".

А ўжо адсюль вынікае ўсё астатняе: ідэал ігры "непрыдуманай" (хоць і глыбока прадуманай), якая льецца з сэрца, але без націску і агрэсіі, без усялякай гіпертрафіі "я", без наймалай прэтэнзіі на "геніяльную інтэрпрэтацыю"; ігры, напоўненай жывымі чалавечымі галасамі, якія непадробна смяюцца або плачуць, гарэзуюць або смуткуюць, лашчацца або гневаюцца, пагаджаюцца або спрачаюцца... Для Кузьміна гэты ідэал персаніфікаваўся ў Іосіфе Гофмане і Леапольдзе Гадоўскім, Бена Майсеівічы і Іосіфе Левіне, Яшы Хейфіцы і Фрыцы Крэйслеры, Марыі

Віншуем!

# БАЛЬЗАМ РОДНАГА КРАЮ

***Багатая на таленты ўздзенская зямля. Паэты і мастакі, вучоныя і артысты — доўгі шэраг славутых імёнаў, шчыра ўлюбёных у працу і Беларусь людзей. Пачэснае месца сярод іх займае і скульптар Уладзімір Міхайлавіч Лятун. Не так даўно яму споўнілася 60 гадоў.***

Дапамог мне адкрыць і творчасць яго, і самога чалавека краязнаўца Уладзімір Кісялёў. У кнізе дасведчанага знаўцы Уздзеншчыны "Пуцявінамі Наднямоння" прачытаў такі вось сціплы абзац: "Скульптар Уладзімір Міхайлавіч Лятун нарадзіўся ў вёсцы Смалінец. Працуе ў станковай і манументальнай скульптуры. Сярод яго твораў — кампазіцыі, прысвечаныя моладзі, партрэты перадавых людзей сяла. У. Лятун выканаў некалькі помнікаў загінуўшым воінам Савецкай Арміі і партызанам". І літаральна ўслед за кніжным знаёмствам адбылася сустрэча з самім творцам. Лічу, што мне надзвычай пашанцавала, бо пазнаёміліся мы пры адкрыцці чарговай працы Уладзіміра Міхайлавіча. Школа-гімназія N 195 Мінска набыла бюст Янкі Купалы яго работы. А ў некаторым часе перад гэтым — бюст А. С. Пушкіна. Так на адным школьным паверсе суседзямі сталі два вялікія паэты. Часцінку сваіх душэўных перажыванняў аддаў ім колішні ўздзенскі падлетак Валодзя Лятун. Праўда, калі ўжо і быў той, падлеткавы, узрост...

Як толькі скончыў сямігодку, цвёрда вырашыў паступаць у мастацкую вучэльню. Ды толькі бацька запярэчыў: вучыся далей, паспеецца яшчэ ў дарослы свет выправіцца. Але на баку сына аказалася маці. Недзе напрыканцы першага курса юнака прыглядзела адна з выкладчыц — Вера Сцяпанаўна Казак. Заўважыўшы цвёрдасць рукі, настойліва параіла хлопцу ўсур'ёз заняцца скульптурай. І Валодзя адважыўся...

Пасля вучэльні быў тэатральна-мастацкі інстытут. Сярод настаўнікаў Летуна аказаліся славутыя майстры беларускай скульптуры Аляксей Глебаў і Андрэй Бембель, ахінутыя сёння покрывам легендаў. Уладзімір Міхайлавіч згадвае:

— Глебаў меў адну цікавую рысу. Ён патрабаваў ад нас занатоўваць літаральна кожную думку, кожны асацыятыўны вобраз. Майстэрні былі застаўлены скульптуркамі. Шмат хто пасмейваўся з гэтага. Але ж такая напружаная праца вымагала ад маладых скульптараў упартасці, настойлівасці, вучыла развіваць мысленне, выпрабоўваць розныя варыянты ўвасаблення ўбачанага... Бембель жа застаўся ў памяці сваёй выключнай патрабавальнасцю. Ён ніколі не хваліў. Калі нешта яму падабалася, то толькі стрымана заўважаў: "Добра..."

Па традыцыі ад сваіх настаўнікаў Уладзімір Лятун пераняў тэму, ці не класічную для беларускай скульптуры. Ён ужо многія гады літаральна прывязаны да мастацкай распрацоўкі вобраза Купалы. Узгадайма ж, як апантана ўвасаблялі купалаўскі характар і Бембель, і Глебаў. Апошні з іх звяртаўся да вобраза паэта яшчэ ў час Вялікай Айчыннай, адразу пасля яго смерці. Але заўжды гэта быў Купала сталых гадоў. У. Лятун задумаўся над іншым. Купала ў маладосці; Купала, які толькі што выдаў "Жалейку"; Купала часу стварэння неўміручай "Паўлінкі" — вось чый скульптурны партрэт наважыўся ён увасобіць. Так нарадзіўся "Малады Янка Купала" (захоўваецца ў Літаратурным музеі Янкі Купалы). Распавядаюць, што ў свой час падобным, летуноўскім, вырашэннем купалаўскай тэмы быў вельмі захоплены Ніл Гілевіч. І больш таго, калі даведаўся, што Уладзімір Міхайлавіч рыхтуе бюст маладога Купалы, для тыражывання, паэт заўважыў: "Першым гатовы набыць такую скульптурную выяву для ўласнай бібліятэкі. Пастаўлю бюст Купалы на самае пачэснае месца..." На вялікі жаль, тыражаванне не адбылося. І сёння два бюсты, выробленыя дзеля гэтай мэты, ёсць толькі ў арыгінале (адлітыя ў фарфоры і метале). Мо раптам нешта зварухнецца ў нашым жыцці, і духоўнасць акажацца на адной прыступцы з эканомікай, будзе не ў меншай пашане за грошы? Тады мо і зразумеюць дзяржаўныя мужы патрэбу выхоўваць моладзь на канкрэтных вобразах майстроў нацыянальнай культуры.

Вандруючы па майстэрні Уладзіміра Міхайлавіча (а знаёмства з яго рабочым месцам інакш і не назавеш, як вандроўкай, бо гэтулькі ў тым сціплым памяшканні перамяшалася — і гісторыі, і людзей), як быццам адкрываеш для сябе невядомы дагэтуль сусвет. У вочы нам пазіраюць Пётр Машэраў і Ціхан Кісялёў, Валерый Чкалаў і Маршал Савецкага Саюза Іван Якубоўскі, героі і паэты, акадэмікі і сціплыя працаўнікі... Іх пазнаеш адразу. І справа тут, на мой погляд, не гэтулькі ў знешнім падабенстве, а ў тым, што Лятун валодае талентам зазірнуць у душу, разгледзець сутнасць сваіх герояў.

Надзвычай уразілі мяне барэльефныя скульптурныя выявы Алеся Бачылы і Алеся Пальчэўскага. Абедзве працы выкананы для надмагільных помнікаў. А. Бачылу ў такім, летуноўскім, абліччы, прызнацца, убачыў упершыню. Не пахмурным, а з іскрынкай у вачах, са светласцю на твары. Менавіта такі чалавек, на думку скульптара, і мог напісаць велічны па сутнасці радок: "Радзіма, мая дарагая..." А чаго вартая выява земляка Летуна, пісьменніка Алеся Пальчэўскага! Трэба ведаць гэтага з трагічным лёсам чалавека, трэба прачытаць яго кнігі, каб зразумець, што скульптар знайшоў выяву, якая найбольш адпавядае ягонаму лёсу.

Уладзімір Лятун валодае сакрэтам бачання сутнасці чалавека. Аднойчы прачытаў у газеце невялічкую нататку пра незвычайнага пастуха з вёскі Сенніца Андрэя Марутку. Як толькі прыйдзе гаспадаром у статак, адразу вырастаюць надоі. Вось дык дзіва! Няўжо той пастух мае пэўны энергетычны зарад?! Адкінуўшы ўбок усе справы, паляцеў у прысталічны калгас, знайшоў Марутку, пазнаёміўся. Распавёў пра сваё жаданне вылепіць ягоны твар. Андрэй пагадзіўся. Партрэт атрымаўся ўражлівы. Пасля маскоўскай выставы скульптуру адразу набылі



*Скульптар Уладзімр ЛЯТУН у сваёй майстэрні.*

ў музей. А яшчэ Уладзімір Міхайлавіч даведаўся, што ж за сакрэт у Марутркі. Чалавек ён шматпакутны. Прайшоў праз фашысцкі палон. Уцёк з астрога перад самым, лічы, забойствам. І даў сабе слова: прыносіць людзям працай сваёю толькі карысць. Так пайшоў у пастухі. А на ўзбраенне ўзяў дзве мудрасці народныя. Не пакрыўдзі скаціну, добрае слова ёй скажы. І яшчэ: не ганяй статак без патрэбы, няхай каровы самі за табой ідуць. А каб цягнуліся да сакавітай травінкі, пасыпай яе соллю. Усё тады з'есць карова, выліжа тое месцейка. Так і выходзіў у поле Марутка з вялікай торбай солі. Яна пастуху не ў цяжар.

Як і не ў цяжар мастаку працаваць, адкрываючы людзям светлыя, багатыя чалавечыя душы.

Так было ў маладыя гады, гэтак жа натхнёна працуе скульптар і сёння. Натхняе ж яго жыватворны бальзам роднага краю.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

---

Калас і Зары Далуханавай, Артура Тасканіні і Леанардзе Бернстайне... І ўсё ж вярхоўнае яго боства — Сяргей Рахманінаў, на магілу якога за 100 кіламетраў ад Нью-Йорка раз у месяц, а то і часцей Кузьмін прыносіць кветкі.

Яго ж уласнае імя ў большасці рэцэнзій суадносіцца з імем Уладзіміра Горавіца — суадносіцца, нават калі пра гэта загадзя нічога не ведаеш, а проста слухаеш. І, памойму, гэта роднасць, якая не мае нічога агульнага ні з перайманнем, ні з рабскім імкненнем быць да некага падобным; інакш гэта была б усё тая ж агідная для Кузьміна "прыдуманасць" у самым горшым сваім абліччы. Яна, роднасць, — у самім стаўленні да музыкі як да сродку прыносіць радасць (прызнаваўся ж Горавіц, што з задавальненнем іграў бы ў рэстаране ў абедзенны час: жаданне зусім нямыслімае для нашых пахмурных руплівцаў "святога мастацтва"); у рэпертуарных прапорцыях; ва ўменні, найглыбокім чынам вывучыўшы твор, — у творчым акце найвысокай засяроджанасці ды інтэнсіўнасці літаральна ўзнавіць яго на сцэне, імправізацыйна, кожны раз узгадняючыся з новым эмацыянальным станам, духоўнай атмасферай, якая нараджае музыку; у не-акадэмічнасці, якая з'яўляецца непазбежным вынікам падобнага падыходу да музыкі. Нарэшце, у бліскучай лёгкасці, якая вынікае з фенаменальнай тэхнічнай аснашчанасці, калі з пункту погляду піянізма нішто не з'яўляецца праблемай і калі "радасць лёгкасці" зіхаціць нават з самых змрочных глыбінь трагізму.

... Зрэшты, Горавіц яшчэ не быў Горавіцам у 30 гадоў. Зрэшты, і Кузьмін у свае 30 гадоў — ужо "не Горавіц, а іншы" — сур'ёзны, сфарміраваны музыкант, які ясна бачыць сваё прызначэнне ў мастацтве і ў жыцці, свой шлях, свае перспектывы; музыкант з шырокім кругаглядам і "канцэптуальным слыхам".

Досыць паказальны ў гэтым сэнсе яго рэпертуар. Ужо ў сілу ягонай скіраванасці да людзей, іскрыстай і непасрэднай, светлай любові да публікі, Кузьміну не ўласцівыя эстэцкія комплексы. Ён не цураецца твораў "зайграных" — магчыма, яшчэ і таму, што здольны, не парываючы з традыцыяй, сыграць іх свежа і па-свойму. Такім чынам, у ягоным рэпертуары — развучаны яшчэ ў дзяцінстве Канцэрт для фартэпіяна з аркестрам Грыга і такія ж абавязковыя канцэрты Чайкоўскага, Ліста, Бетховена, рахманінаўская Рапсодыя на тэму Паганіні; вядомыя санаты Бетховена і цэлы шэраг папулярных рамантычных "буйных форм": Сі-бемоль мінорная саната і Баркарола Шапэна, Другая саната Рахманінава і Чацвёртая Скрабіна, шубертаўскі "Вандроўнік";; мноства самых разнастайных п'ес: санаты Скарлаці, скерца, накцюрны і мазуркі Шапэна, лістаўскія рапсодыі, рамантычныя мініяцюры Шуберта і Шумана, "Ісламей" Балакірава, эцюды Ліста, Шапэна, Скрабіна, Рахманінава... У той жа час Кузьмін не баіцца і разыходжанняў з грамадскім густам або музычнай модай. Так, напрыклад, зусім нечаканая і разам з тым лагічная яго прыхільнасць да Ліста, у тым ліку — да "бравурнага" і ўяўна-павярхоўнага (у якім ён, аднак, знаходзіць невядомую дагэтуль містычную і паэтычную глыбіню) і да Ліста эзатэрычнага, які ўвасобіўся ў "Паэтычных і рэлігійных гармоніях".

Такая ж незвычайная яго прыхільнасць да транскрыпцый, асабліва — да рэдка выконваемых з-за неверагодных тэхнічных цяжкасцей. Магчыма, у гэтым выяўляецца страсць да пераадолення, а магчыма — звонкая радаснасць усялякай віртуознасці. А яшчэ ён любіць звяртацца да незаслужана забытых, "згубленых" твораў, да якіх спачатку даводзіцца прыкласці "працу знаходжання": напрыклад, п'есы Гумеля ці Рazenталя, якія набываюць новае жыццё ў арыгінальных тэматычных праграмах. Цяпер рыхтуецца такая праграма, цалкам прысвечаная жанру вальса... Ці пачуем мы яе калі-небудзь?

На сённяшні дзень ягонае рэпертуарнае багацце ўжо "пацягнула" на восем поўных гадзінных кампакт-дыскаў, запісаных Кузьміным на працягу апошніх паўтара гадоў і абсалютна недаступных для нашых аматараў. У іх ліку — дыскі манаграфічныя: прысвечаныя Шапэну, Шуберту, Лісту, Скрабіну і Рахманінаву; дыскі з аркестрам: запісы канцэртаў; а таксама выбраныя "бісы". Хутка павінна выйсці яшчэ некалькі манаграфічных кампактаў, прысвечаных Баху, Моцарту, Бетховену, яшчэ і яшчэ — Лісту; і зноў нейкім шчаслівчыкам выпадзе ехаць за імі ў Злучаныя Штаты.

Самога Кузьміна больш за ўсё задавальняюць яго апошнія запісы: Рахманінаў і Скрабін. А дакладней — гаворачы яго ўласнымі словамі, "адна нота ў Санаце Рахманінава... і яшчэ парачка тактаў: тут і там". І гэта зусім не напускная сціпласць: ён сапраўды так чуе і адчувае. І гэта сведчыць толькі пра тое, што, выйграўшы прэстыжны конкурс імя Стравінскага ў Цынцынаці (у цяперашні час ён — пастаянны член журы гэтага конкурсу) і атрымаўшы ў 1990 годзе другую прэмію на конкурсе імя Бартака—Ліста ў Будапешце; аб'ездзіўшы з канцэртамі ці не ўсе буйныя гарады Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі, пабываўшы ў Аўстраліі, Новай Зеландыі і нават у Паўднёва-Усходняй Азіі, зрабіўшы два вялікія канцэртныя турнэ па Расіі, — ён яшчэ нават і не бачыць сваёй "столі".

Магчыма, таму ён пакуль і не імкнецца да занадта паспешлівай, сумятлівай і легкадумнай вядомасці, аддаючы перавагу надзейнасці і грунтоўнасці ў сваіх суадносінах з публікай? Напрыклад, ён цвёрда прытрымліваецца думкі пра тое, што ў абедзвюх расійскіх сталіцах для пачатку трэба "адзначыцца"; а ўвогуле там можна ўсур'ёз паказацца, толькі цалкам аб'ездзіўшы рускую правінцыю (уключаючы Урал, Сібір і Далёкі Усход). І гэтую сваю ідэю ён няўхільна ажыццяўляе, наведаўшы ў ходзе абедзвюх паездак Вологду, Курск, Разань, Тулу, Кастраму, Чарапавец, Вялікі Усцюг, Воткінск, Архангельск, Іжэўск... І ў кожным горадзе пад канец канцэрта зала ў адзіным парыванні ўставала, адгукаючыся насустрач любові, якая не толькі нічога не баіцца і не хавае — але, наадварот, імкнецца раскрыць, расказаць сябе людзям: у музыцы, у спавядальных прадмовах перад кожным канцэртам, у чалавечых прывязанасцях...

Між іншым, былі ў яго ўжо канцэрты і ў сталіцах: у Маскве — у Скрабінскім музеі, у Малой зале кансерваторыі, у залах імя П. І. Чайкоўскага і Дома вучоных, — і, акрамя таго, у шматлікіх фестывальных "Палацах Санкт-Пецярбурга". Былі канцэрты ў сталіцах многіх краін свету... А перш за ўсё — у адной з вялікіх культурных сталіц: у Нью-Йорку (вось ужо некалькі гадоў Кузьмін са сваімі сольнымі канцэртамі — часты госць на падмостках славутага Lincoln Center. Здараліся забаўныя супадзенні, калі, напрыклад, нядзельнай раніцай у Avery Fisher Hall выступае Яўген Кісін, а вечарам у суседнім Alice Tully Hall да публікі выходзіць Кузьмін...

У той час Кісіна ў нас вельмі хвалілі. А цяпер — штосьці не чуваць. Што ж тычыцца Кузьміна, то праз год ужо "The New York Times" напіша пра яго: "Леанід Кузьмін... дзівосныя гукі, якія яму ўдаецца здабываць з клавіятуры... Спадар Кузьмін, нязмушаны і чароўна гарэзлівы на сцэне, пачаў з Баркаролы і чатырох мазурак Шапэна. І адразу зрабіліся відавочныя яго моцныя бакі: ясны, чысты гук, бліскучая пасажная тэхніка, тонкасць паўценяў і дынамічных пераходаў, ненатужныя кульмінацыі... Шубертаўскі "Вандроўнік"... дзівоснае пачуццё сапраўднасці... магутная плынь музыкі, якая накіроўваецца са сталай упэўненасцю, у якой адчуваецца палёт высокай рамантычнай фантазіі... Спадара Кузьміна з поўным правам можна назваць вялікім музыкантам..." Сёння яго ўжо параўнаўваюць з Горавіцам...

Але то — "іхняя" крытыка, з яе хвалёнай аператыўнасцю. А мы? Далёкія і блізкія; тыя, хто ведаў яго па голасе, у твар — і, нарэшце, толькі па прозвішчы; хто ўскладаў надзеі або саркастычна ўсміхаўся; усе мы, для каго ён нібыта знік — здавалася, незваротна, пакінуўшы толькі слабы водбліск у прыцемках памяці, — непазнаны і страчаны... Ці помнілі яго, ці здагадваліся пра ягоныя дасягненні — не тыя, якія вымяраюцца дэцыбеламі ўзнятага шуму, а ціхія і глыбокія, як каштоўны калодзеж, выкапаны ў пустэльні і схаваны пад каменем ад мітуслівых вачэй?

Ва ўсякім разе, амерыканскай аператыўнасці нам яўна не хапіла: бо гэтыя нататкі — першая публікацыя пра Кузьміна, на якую адважылася беларуская прэса праз два гады пасля трыумфальнага выступлення піяніста ў маі 1993-га ў канцэртнай зале яго роднага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі! Доўгім было і маўчанне філармоніі, дзе рэкламныя праспекты Кузьміна пыляцца не адзін год. Гэта ж не проста наш суайчыннік (што ў любой іншай дзяржаве было б важна само па сабе), а піяніст сусветнага класа! Піяніст, якога любяць і ведаюць...

Так альбо інакш, два гады таму Кузьмін пабываў у Мінску. Сыграў канцэрт у ліцэі. Аднавіў старыя дружбы. З'ездзіў на магілу сваёй першай, дарагой настаўніцы — Ірыны Аляксандраўны Цвятаевай. Прынамсі, у той свой прыезд ён нам — у духоўным сэнсе — падарыў значна больш, чым атрымаў ад нас. А можа, я памыляюся?

Акурат год таму ён досыць доўга кружыў амаль побач — за празрыстай мяжой... Аднак дадому (ні ў Мінск, ні ў Гомель) ён так і не заехаў... А цяпер, калі яго кар'ера ўздымаецца на новы ўзровень, на якім расклад гастрольнага жыцця плануецца на некалькі гадоў наперад, ці знойдзе ён для нас час?

Здаецца, знойдзе. Мастацкае кіраўніцтва Беларускай дзяржаўнай філармоніі зрабіла, нарэшце, афіцыйнае запрашэнне. Канцэрт Леаніда мае адбыцца 24 мая. Так што музыка да нас вернецца. Або — мы вернемся да музыкі, што было б неяк прыгажэй і больш натуральна. І ўсе доўгачаканыя вяртанні прыкладуцца: у тым ліку і вяртанне Леаніда Кузьміна.

**Юлія АНДРЭЕВА**

# ЖЫЦЦЁВЫЯ КРЭСКІ

Аляксандр КАПУСЦІН

## ПАДЗЯКА

Паэзію я люблю з маленства, але вершы пісаў толькі ў вайну. Падчас лячэння ў шпіталях пасля раненняў. Ачуняў салдат ад фізічнага болю, і маладая душа раскрывалася радужнымі, узнёслымі думкамі пра жыццё, пра сяброў-таварышаў, пра далёкую мілую Беларусь.

Мінула паўвека з тых часоў і раптам...

На свята ў Жлобін з выпадку паўвядзесяцігоддзя з дня вызвалення горада і раёна ад фашыстаў з'ехаліся ветэраны з усіх куткоў былога Савецкага Саюза. Сустрэча была надзвычай хвалюючая, і пад уражаннем ад яе зусім нечакана для мяне выплюхнуўся з маёй душы верш. Мне, празаіку, цяжка было меркаваць, чаго ён варты як твор паэзіі, а тым часам не цярпелася пачуць старонняю думку. І я прачытаў верш па тэлефоне маладому таленавітаму паэту. Мікола — так яго імя — паслухаў, з годнасцю сказаў:

— Пад гэтым творам, Аляксандр Пятровіч, я паставіў бы свой подпіс.

Безумоўна, пачуць такое было прыемна, аднак мне падумалася: "А мог ён па сціпласці сваёй і нешта замаўчаць. Пазваню Івану — пісьменнік, навуковец... Гэты не пасароміцца па-сяброўску і наводмаш рэзнуць, ды хай сабе..."

— Іван, —кажу, — прачытаю я табе зараз невялікі верш, а ты пазнай, чыё залатое пяро яго напісала.

Змоўк мой голас, і ён адразу называе мне мэтра ад паэзіі.

— Не, — кажу.

Называе другога такога.

— Не.

— Ну, хопіць у жмуркі гуляць. Хто?

— Гэта мой верш, — сказаў я, стрымліваючы радасць.

— І што ў цябе за такая завядзёнка — галаву падурыць? — У голасе ў трубцы — метал.

— Кажу ж — мой. — Я ўжо не хаваў свайго гонару.

— Пажартуй з кім іншым такімі жартачкамі.

— І трубка загула кароткімі гудкамі.

Я пазіраў на яе і не ведаў: злавацца мне на яго ці радавацца? З аднаго боку — дык ён як бы і пахваліў мяне: вунь з якімі зубрамі параўнаў! А з другога — зганіў: такі я ўжо нездалека, што не змагу так напісаць.

Неўзабаве ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" мелася сустрэча пісьменнікаў-ветэранаў з супрацоўнікамі выдавецтва, прысвечаная вызваленню Беларусі ад гітлераўцаў. Мне пазваніў галоўны рэдактар выдавецтва Мікола Кусянкоў, спытаў, ці не выступіў бы я на сустрэчы? Спачатку я падумаў: ну выступлю, а што новага скажу калегам-пісьменнікам? Гэта ж не перад вучнямі ў школе гутарку праводзіць... І раптам нечакана для самога сябе адказаў Мікалаю Сяргеевічу:

— Выступлю.

На сустрэчы я прачытаў свой верш і атрымаў апладысменты.

Дадому мы ішлі разам з Іванам. Дзень быў спякотны, хаця сонца ўжо кацілася ўніз, усё ж не дужа адчувалася, каб гарачыня спадала. Мы павольна крочылі па праспекце імя Машэрава да станцыі метро. Іван сказаў:

— А табе, браце, Барадулін апладзіраваў.

— Твае словы мне цешаць слых, як зайцу барабанны пошчак, — пажартаваў я.

Не ведаю, ці Рыгор Іванавіч сваімі апладысментамі паблажліва паляпаў мяне па плячы, ці сапраўды ўхваліў верш, але я сказаў сябру шчыра:

— Дзякую.

А ўслед за гэтым думка выхапіла радкі з верша: "Ступае ў калоне сівы ветэран, глядзяць яго вочы задумна..."

## ГУКНУЎСЯ Ў СЭРЦЫ СМУТАК

Рэдактар сядзеў за сваім сталом напружана, па ім відаць было, што ён стараўся стрымліваць нейкую глухую ўзрушанасць.

— Я на хвіліну, — сказаў я, увайшоўшы ў невялікі акуратны кабінет.

У вочы мне кінуўся вазон хрызантэмы. Расліна цвіла прыгожымі снежна-белымі кветкамі, і гэта надавала пакою нейкую асаблівую, мяккую ўтульнасць.

— Разумею ваша рэдактарскае становішча: і тое трэба хутчэй надрукаваць, і другое. Уяўляю сябе на вашым месцы, але ж... — Раптам я асекся, мне падалося, што вусны рэдактара кранула ледзь улоўная саркастычная ўсмешка. — Вы, мусіць, зараз падумалі пра мяне: вось нахабнік, на маё месца захацелася яму!

— Што вы, што вы, Аляксандр Пятровіч, — мякка перапыніў мяне рэдактар. — Вы тактоўны, ветлівы чалавек.

"Тактоўны, а ўварваўся, як вецер", — абавязброены яго карэктнасцю, паўшчуваў я сябе ў думках.

— Гаворыш з вамі — у вас усё ясна, коратка, — працягваў рэдактар, уважліва, са значэннем пазіраючы на мяне.

— Прашу вас надрукаваць мой нарыс пра родны кут да юбілею перамогі, — хуценька выклаў я сваю просьбу. І развітаўся.

Па дарозе дадому перабіраў у думках нашу гаворку, і ў галаве ў мяне круцілася: як тонка, далікатна паставіў ён кропку над "і" — ветліва прамовіў "усё ў вас коратка", а сказаў гэтым "не расседжвайся, шаноўны".

Неспадзявана гэты выбрыманы, інтэлігентны малады чалавек нагадаў мне настаўніка Царэйку Алеся Кузьміча, які ў нашай вясковай сямігодцы выкладаў беларускую мову і літаратуру. Алесь Кузьміч ніколі нічога ад нас не патрабаваў, нічога нам не загадваў і не чытаў маралі. Ён пераконваў нас сваёй далікатнасцю і спагаджансцю, сваёй дабрынёй. Заўсёды ўсімі сваімі паводзінамі як бы гаварыў нам: "Трэба вось так рабіць, вось так". Аднаго разу ён даў мне са сваёй асабістай бібліятэкі пачытаць "Новую зямлю" Якуба Коласа — бачыў, як я прагну кніжак. Дык жа і выбраў штo!.. На яго спагадлівасць душа мая азвалася гонарам і вялікай радасцю.

Цяпер, калі тое прыгадалася, мяне раптам ахапіла нечаканае жаданне: захацелася ў каторы раз перачытаць неўміручы твор, сустрэцца са шчырымі, добрымі і дасціпнымі Антосем, Міхалам, Юзікам-шаляніцай... Так закарцела!.. "А гэты ветрык дурасліва Траве зялёнай чэша грывы..."

То неўсвядомлена дзіўна, недарэчна гукнуўся ў сэрцы смутак. Нязгасны смутак па чыстых, прыгожых, як ранішняя зара, мроях і летуценнях рамантычна-ўзнёслага юнацкага духу. Дык якую ж трэба было яму, таму духу, мець сілу любові да жыцця, каб не згаснуць у сэрцы праз многія дні і ночы ваеннага ліхалецця, праз дзесяцігоддзі пакут параненага цела і душы, прычыненых фашысцкай зброяй!

# СВЯТА Ў МІРЫ І КАРЭЛІЧАХ

**Сёлета спаўняецца 500 гадоў жамчужыне і славе беларускага дойлідства — Мірскаму замку. З чэрвеня ў Міры адбудзецца вялікае свята, прысвечанае 500-ым угодкам замка. У свяце прымуць удзел вядомыя музычныя калектывы рэспублікі. Гэта будзе цудоўны канцэрт фальклорна-харэаграфічнага ансамбля "Харошкі", святочны кірмаш мастацтваў, на якім можна будзе назіраць, а то і паўдзельнічаць у сцэнічных замалёўках з жыцця Мірскага наваколля 18—19 стст. Адбудуцца цікавыя і багатыя выставы жывапісу, літаграфіі, керамікі, габеленаў, народных промыслаў і дароў карэліцкай зямлі. Шмат радасці і весялосці падораць канцэрты ансамбля народнай музыкі і танца "Бліскавіца" і ансамбля танца "Белыя росы".**

**Свята ў Міры пачнецца а 14-ай гадзіне, а закончыцца ўвечары выступленнямі фальклорных калектываў Карэліцкага раёна, гульнямі, забавамі, скокамі, вогнішчамі.**

**На наступны дзень, 4 чэрвеня, урачыстасці і канцэрты перанясуцца ў г. п. Карэлічы, якія такім чынам адзначаць сваё 600-годдзе. Усе святочныя мерапрыемствы пачнуцца аб 11-ай гадзіне. На працягу ўсяго свята ў Міры і Карэлічах будуць працаваць гандлёвыя рады.**

**Беларускі фонд культуры, Міністэрства культуры і друку РБ, мясцовыя ўлады Міра і Карэлічаў, якія сумесна рыхтавалі свята, запрашаюць жыхароў Беларусі і гасцей нашай рэспублікі наведаць у гэтыя дні Мір і Карэлічы, далучыцца да свята і гісторыі гэтых славутых і прыгожых, непаўторных мясцін беларускай зямлі.**

# БАРОКА НА БЕЛАРУСІ



**12 красавіка ў полацкім Сафійскім саборы адчынілася выстава "Барока на Беларусі", складзеная з копій фрагментаў фрэскавага цыкла і праектаў рэстаўрацыі Кафедральнага касцёла Магілёва 1992—1995 гадоў. Выстава і яе адкрыццё былі арганізаваны пры дапамозе Полацкага дзяржаўнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка, Беларускай каталіцкай грамады і вядомай мастацкай галерэі "У Пушкіна" (Віцебск), пазбаўленай не так даўно свайго прыстасаванага памяшкання ў былой "сталіцы" мастацтваў, але не прыпыніўшай сваёй высакароднай дзейнасці. Мяркуецца, што выстава ў Сафійскім саборы будзе экспанавацца ўсё лета.**

**Пры адкрыцці экспазіцыі вялікая колькасць запрошаных сталі сведкамі канферэнцыі, прысвечанай шырокаму колу пытанняў рэстаўрацыі непасрэдна магілёўскага касцёла і самой культуры барока. Выступоўцы — вядомыя мастакі, даследчыкі выяўленчага мастацтва з Дзяржаўнага мастацкага музея РБ, Беларускай акадэміі мастацтваў — вялі размову аб выдатным помніку архітэктуры і яго фрэскавага жывапісу, акрэслілі агульнарэстаўрацыйныя праблемы апошняга часу ў рэспубліцы. Спецыялісты засяродзілі ўвагу на новых прачытаннях сюжэтаў фрэсак і абгрунтавалі неабходнасць аналітычнага перааасэнсавання барока для прагрэсіўных тэндэнцый сучаснага мастацтва.**

**Пасля адкрыцця выставы адбыўся канцэрт арганнай музыкі. Музычныя творы часоў барока выканала Ксенія Пагарэлая — лаўрэат II Міжнароднага фестывалю Хрысціянскай музыкі "Магутны Божа".**

Міхал БАРАЗНА

*Полацкі Сафійскі сабор.*

# АПОШНІ РУКАПІС КАМЮ

У запэцканым граззю партфелі, знойдзеным ля месца аўтакатастрофы, у якой чацвёртага студзеня 1960 г. загінуў Альбер Камю, знайшлі 144 старонкі амаль што нечытабельнага почырку. Гэта быў чарнавік пачатковых раздзелаў рамана, заснаванага на фактах з уласнага жыцця аўтара.

Удава Альбера Камю Франсіна не пажадала публікаваць гэты твор. Нягледзячы на тое, што Камю атрымаў Нобелеўскую прэмію 1957 г. у літаратуры, падчас сваёй смерці ва ўзросце сарака шасці гадоў, ён быў у кепскіх адносінах з Жанам-Полем Сартрам і іншымі сваяцямі з "Левага крыла". Франсіна баялася, што публікацыя чарнавіка выкліча новыя нападкі на мужа.

Але сёння левыя інтэлектуалы больш не правяць баль у Парыжы. Раман напэўна зацікавіць прыхільнікаў "Чужаніцы", "Чумы" і іншай сучаснай класікі. Дачка Камю Катрын апублікавала рукапіс пад назвай "Першы чалавек".

"Мой бацька ніколі не дазволіў бы публікаваць першы варыянт. Часта ён іх рабіў тры, чатыры ці шэсць. Але прачытаўшы тэкст, я пераканалася, што гэта унікальны па сваёй аўтабіяграфічнасці дакумент, і таму вырашыла яго апублікаваць".

Аднак чаго не прадугледзела дачка Камю, дык гэта таго ўзбуджэння, якое выклікала кніга.

У красавіку 1994 г. пасля яе выхаду ў выдавецтве Галімар з'явіліся не толькі станоўчыя водгукі большасці літаратурных крытыкаў і былі надрукаваны грунтоўныя артыкулы аб жыцці і творчасці Камю. На працягу толькі аднаго месяца кніга была прададзена ў колькасці больш чым сто тысяч экземпляраў.

"Цяжка сёння адкрываць гэтыя старонкі без шчымлівага хвалявання, — піша Флорэнс Нуавіль, літаратурны крытык газеты "Монд". — Як скульптар, які пакідае адбітак сваёй далоні ў гліне, так і Камю, здаецца, прысутнічае ўсюды, за кожным словам, кожнай фразай, кожнай думкай".

Катрын Камю — саракавасьмігадовы адвакат — прытрымлівалася як мага бліжэй да арыгінала, дадаючы толькі неабходныя знакі пунктуацыі. Кніга між тым рыхтавалася тры гады, бо бацькаву пісаніну было нялёгка разабраць. Нават цяпер у тэксце ёсць мясціны, дзе словы абсалютна не чытаюцца.

У сваім неадшліфаваным і незавершаным выглядзе раман дае рэдкую магчымасць пранікнення ў творчую лабараторыю найбольш чытаемага французскага аўтара дваццатага стагоддзя. А. Камю пісаў першы чарнавік ад рукі, выпраўляючы памылкі па ходзе справы і запаўняючы палі заўвагамі аб магчымых варыянтах.

Гэтая кніга, несумненна, аўтабіяграфічная. Па форме — гэта раман. У ім апавядаецца пра бедную французскую сям'ю, якая жыве ў Алжыры з часу нараджэння Альбера Камю (1913 г.) да таго моманту, калі сям'я распалася ў час вайны (канец 50-х гадоў) краіны за незалежнасць. Камю піша ад трэцяй асобы, ад імя Жака Кармэры. Да смерці аўтар паспеў апісаць толькі першыя 14 год свайго жыцця. Гэтае апісанне і склала раздзел пад назвай "Пошук бацькі". У ім апавядаецца пра абвостранае жаданне Альбера Камю запоўніць жудасную пустэчу, што ўтварылася ў яго душы пасля забойства бацькі ў першай бітве на Марне ў 1914 г. Альберу тады споўнілася толькі адзін год. Камю апісвае, як праз цэлыя дзесяцігоддзі ён, ці хутчэй яго герой Жак Кармэры, наведаў бацькаву магілу. Ён прачытаў дзве даты — 1885—1914 — і падлічыў: 29 год. Раптам прынеслася думка. "Мне сорак. Чалавек, пахаваны пад гэтым каменем, мой бацька, — маладзейшы за мяне".

Многія французскія крытыкі заўважылі, што "Першы чалавек" адкрывае іншую, больш асабістую старонку душы Камю, вядомага адлучніка. "Упершыню ён дазваляе гаварыць сваім пачуццям", — адзначыў Ража Грэнье, аўтар біяграфіі пісьменніка. Гэта бачна з таго, як эмацыянальна апісана станаўленне чалавека ў цеплыні і свеце поўначы афрыканскага Міжземнамор'я.

Гэта таксама дазваляе яму распавесці пра культурную ўбогасць і матэрыяльную нястачу, у якой ён быў выхаваны моцна любімай, але непісьменнай маці.

Сапраўды, першая старонка рукапісу нясе прысвячэнне менавіта ёй: "Табе, той, што ніколі не здолее прачытаць гэтую кнігу". Камю таксама ўшаноўвае настаўніка, які прыкмеціў яго таленавітасць і натхніў на пісьменніцкую працу.

Сціплае і беднае жыццё Камю ў Алжыры шмат у чым растлумачвае, чаму праз гады ён адчуваў сябе чужым у элітных інтэлектуальных колах Парыжа. Нават пасля свайго эсэ "Міф аб Сізіфе" (1942 г.). Камю настойваў, што ён не з'яўляецца экзістэнцыялістам. Хаця яго імя нязменна выклікала асацыяцыі з рухам, які зарадзіўся на чале з Сартрам.

Так, як у творы Сартра "Словы", апісваецца дзіця, народжанае ў культурным заможным асяроддзі, якое атрымлівае культуру са сваёй соскі, — (тлумачыць дачка Камю), — "Першы чалавек" паказвае, як аўтар у дзяцінстве быў вымушаны змагацца, каб далучыцца да культуры, якая не была яму дадзена з маленства.

У 1952 г. Сартр публічна парваў з Камю. Прычынай таму стала эсэ апошняга "Чалавек — бунтар", у якім Альбер Камю асудзіў савецкія канцлагеры.

У асяроддзі "Левага крыла", дзе, як кароль філосафаў, панаваў Сартр, Камю хутка адчуў сябе адрынутым. Калі ён атрымаў Нобелеўскую прэмію (ва ўзросце 43 гадоў), модна было гаварыць, што яго лепшая праца ўжо ў мінулым. Быў самы разгар вайны ў Алжыры, і гэта паглыбіла ізаляцыю мастака.

У той час, як Сартр і іншыя французы з левымі настроямі падтрымлівалі барацьбу Алжыра за незалежнасць, Камю вагаўся, нібы нясдольны парваць з французскім Алжырам, які быў часткай яго дзяцінства. Прыкладна ў той жа час ён і задумаў "Першага чалавека".

Задоўга да публікацыі рамана маятнік густу публікі наблізіўся да Камю. Сапраўды, у сувязі з крушэннем савецкага камунізму з'явіліся думкі, што Камю, у рэшце рэшт, перамог Сартра. Яго "Чужаніца" — твор, абавязковы для вывучэння ў французскіх школах, і цяпер штогод разыходзіцца тыражом у дзвесце тысяч экземпляраў.

*"International Herald Tribune", 22 красавіка 1994 г.*

**Пераклала з англійскай мовы Юлія ДЗІКАЛЕНКА**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## “ВЯЛІКДЗЕНЬ. ТРАДЫЦЫІ І МАСТАЦТВА”



**У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі працавала выстава “Вялікдзень. Традыцыі і мастацтва”, арганізаваная музеем і Саюзам майстроў народнай творчасці рэспублікі. На ёй наведвальнікам была прадастаўлена магчымасць пазнаёміцца з гісторыяй узнікнення велікоднага свята і яго традыцыямі.**

**Сімвалам Вялікадня стала фарбаванае яйка. “Свята Вялічка — з чырвоным яечкам” — спяваецца ў адной з народных песень. Першапачаткова існавала традыцыя (яна захавалася і сёння) фарбаваць яйкі ў чырвоны колер — сімвал жыцця. Потым пачалі распісваць яйкі геаметрычнымі або раслліннымі арнаментамі.**

**На выстаўцы экспанаваліся разнастайныя калекцыі яек-“пісанак” са збораў Нацыянальнага музея і Саюза майстроў народнай творчасці, работы дзіцячай студыі пад кіраўніцтвам Н. Матвеевай. Дапаўнялі экспазіцыю вырабы з лазы і саломкі, работы рэзчыкаў па дрэве, віншавальныя велікодныя паштоўкі і святочныя ручнікі.**

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛІНФАРМ**

*На здымках: знаёмства з выстаўкай.*

*Фота аўтара*

## НЕ ТОЛЬКІ ПРЫГОЖА



**Калі гаспадыня з вёскі Галаўнінцы Ляхавіцкага раёна задумае ўпрыгожыць сваю кухню арыгінальным наборам неабходных прадметаў, яна абавязкова звернецца да Сяргея Палешука. Ён — майстар разьбы па дрэве. А наборы, якія выходзяць з-пад яго ўмелых рук, прыгожыя, дабротныя, не падобныя адзін на другі. У аднавяскоўцаў на іх добры попыт.**

**Сяргея радуе, што амаль у кожным доме роднай вёскі ёсць яго вырабы. Яны і карысць прыносяць, і вока радуюць.**

*На здымку: Сяргей Паляшук робіць і такія наборы.*

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ*

## “БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА”, N 4

**“Падарожжа ў край, якога няма” — так назвала свае “лірычныя нататкі на нелірычную тэму” А. Канапелька, запрашаючы чытача зрабіць падарожжа ў родны ёй Хойніцкі раён, туды, дзе сёння чарнобыльская зона. Змешчаны падборка матэрыялаў “Рашаючае слова — за выбаршчыкам”, вершы А. Астрэйкі, Б. Спрынчана, В. Гардзея. Пад рубрыкай “Мова дрэў” — чарговая падборка матэрыялаў Г. Булыкі і І. Гуняжэнкі. С. Вінакурава дзеліцца роздумам пра нашу рэчаіснасць — “Нулявы час”. Значная частка матэрыялаў прысвечана 50-годдзю Перамогі.**

# НОВАЕ ПРА ТОДАРА ЛЕБЯДУ

У мінулагоднім кастрычніцкім нумары тыднёвіка “Літаратура і мастацтва” быў надрукаваны мой артыкул “Сягодня я надоўга ад’язджаю...” — пра паэта, драматурга і празаіка Тодара Лебяду (Пятра Фёдаравіча Шырокава), які двойчы быў рэпрэсіраваны — у 1936 і 1947 гадах. Ён заканчваўся радкамі: “1 студзеня 1962 года П. Шырокаў звольніўся з работы і пакінуў Слонім. Як склалася яго далейшае жыццё — невядома. Ці жыве ён, ці не — таксама цяжка сказаць...”. За гэты час мне ўсё ж удалося разгадаць гэтую загадку і даведацца пра далейшы лёс нашага літаратара.

Пасля Слоніма Тодар Лебяда прыехаў у горад Чэрвень Мінскай вобласці. Тут ён уладкаваўся працаваць... сакратар-машыністкай у рэдакцыю раённай газеты “Уперад”. Піша па-ранейшаму вершы, фельетоны, гумарэскі і п’есы. Друкуецца не толькі ў сваёй газеце, але дасылае творы і ў рэспубліканскія выданні. Праўда, падпісваецца ўжо другім псеўданімам — Клім Каліна.



У канцы 1962 года Тодар Лебяда пакідае Беларусь і ад’язджае ў Расію, на Разаншчыну, дзе ў яго была знаёмая жанчына. З ёю наш зямляк пражыў сем гадоў. Там ён пабудаваў дом, пасадзіў сад. Але гады сталінскіх рэпрэсій далі аб сабе знаць. Ён перанёс два інфаркты і на пачатку 1970 года памёр. Пахаваны ў пасёлку Воршава Пуцяцінскага раёна Разанскай вобласці.

А да ўсяго гэтага трэба дадаць, што ў Чэрвені жыве дачка Тодара Лебяды Ала Пятроўна Козел. Яна даслала мне шчырыя ўспаміны пра трагічны лёс бацькі. Зрэшты, не толькі бацькі, а наогул пра трагічны лёс нашай тагачаснай творчай інтэлігенцыі.

А. Козел піша: “У Чэрвені жыве старая жанчына Дзічкоўская Вольга Іванаўна. Яна вучылася разам з маімі бацькамі. Была замужам за стрыечным братам Пятра Шырокава Пятром Хатулёвым — таленавітым літаратурным крытыкам, якога ўзялі ў адну ноч з маім бацькам. Пятро Хатулёў (таксама студэнт педінстытута і таксама з Віцебшчыны) загінуў у засценку. І Вольга Дзічкоўская была арыштавана. У турме яна нарадзіла сына. “Першае, што ўбачыў мой хлопчык, — расказвае яна, — гэта было дула пісталета, накіраванае ў яго маці”. Вольга Іванаўна вельмі цікавы чалавек. У яе добрая памяць. Мае бацькі ўсё жыццё з ёю моцна сябравалі. Дарэчы, я нідзе не сустракала ў друку прозвішча Пятра Хатулёва, а яны з бацькам праходзілі па адной справе. А цяпер пачну з каранёў Пятра Шырокава (прозвішча бацькі Шыракоў, а пры хрышчэнні бацюшка запісаў Шырокаў).

Яго бацькі, а мае дзед Фёдар (Тодар) Шыракоў і бабуля Анастасія Лысоўская былі з адной вёскі (назвы не памятаю) Шумілінскага раёна. Тодар быў старэйшы за жонку. Лічыўся вельмі добрым сталяром і наогул майстрам на ўсе рукі. Гэтая рыса *перадалася пазней і сыну Пятру.* Юнаком ён паехаў з вёскі на заробкі ў Віцебск, там і застаўся. Прайшло некалькі гадоў, Тодар наведаўся ў родную вёску. А назад ехаў ужо не адзін, а з маладой жонкай — шаснаццацігадовай Насцяй. Знайшлі ў Віцебску невялікі пакойчык, пачалі жыць. Нарадзіліся ў іх трое дзетак: Зося, Пятрок і Надзейка. Дзяўчынкі памерлі рана — у два і пяць гадкоў, рана не стала і бацькі. Бабуля Насця, хоць і была яшчэ маладая, не разгубілася, уладкавалася праваднікай на чыгунку. Сына Петрака адпраўляла да сваіх бацькоў у вёску...

Пасля Віцебскай сямігодкі Пятрок паступае ў рамеснае вучылішча чыгуначнікаў. Яшчэ ў школе пачынае пісаць вершы, а ўжо ў вучылішчы цвёрда вырашае займацца літаратурай. Паступае ў Мінскі педінстытут

# СТРАХ

(Пачатак на стар. 9)

рэзка, адкрыта выказаўся? — падумаў трывожна, разгублена. — Камуніст ленінскага прызыву, быў на віду, чэсны чалавек. Не баіцца. І ў калектывізацыю не збаяўся запярэчыць. А мо здагадваецца, што цяпер яго не абмінуць, успомняць старыя грахі? Яшчэ каго? Мяне, Булата? Маторны — іхні чалавек, такія цяпер у пашане. Гатовы дырэктар школы, калі што... Чамаданчык трэба падрыхтаваць на ўсялякі выпадак”.

Падсвядома адчуваў, што чакае, хвалюецца, ці прыедзе сёння страшная чорная машына. У пакоі спытаў у жонкі:

— Не бачыла, была сёння эмка?

— Быццам не было, — адказала жонка, але з трывогай паглядзела на мужа. — А чаму ты?

— Недзе ў шафе мой халасцяцкі чамаданчык, — папрасіў ціхім голасам. — Пакладзі бялізну, мыла, свежую кашулю...

— Ты што? Навошта ты ім?

— Хай будзе, за мной ніякай віны няма, — Родзіч гаварыў спакойна, каб не хваляваць жонку. — Хіба што памыляцца, дык выпусцяць.

Чорная машына не наведвалася ў вёску некалькі дзён. Але перад самым Новым годам яна нячутна, драпежна бліснуўшы жоўтымі фарамі на школьны будынак, прашмыгнула цёмнай вуліцай да сельсавета.

— Некага грабяне, халера на яе, — паныла прамовіў Нямыцька, праводзячы вачамі чырвоны агеньчык, які хутка мільгаў за штакетнікам.

— Цішэй, Саўка, — Родзіч міжволі азірнуўся па баках. — Язык у цябе...

Яны стаялі на школьным двары, гутарылі пра сёе-тое, ды з’яўленне эмкі перапыніла бяседу.

— Ты не бойся, Хвёдаравіч, цябе абмінуць, — заспакоіў Нямыцька Родзіча. — Парцейных бяруць, а ты беспарцейны, шкоды нікому не зрабіў. І дырэктар малады. Плюнь, Хвёдаравіч, ды нагой расцяры. А я язык за зубамі ўмею трымаць. Ета з табой шчыра пагаманю, а на людзях — маўчок.

— Не ўгадаеш, каго забяруць, — Родзіч адчуў, як страх паралізуе яго, адымае волю. — Сёння партыйцаў, а заўтра?

Саўка паўзіраўся ў той бок, куды пакацілася чорная машына, кінуў на снег недакурак, павярнуўся да дырэктара.

— Мо і праўду кажаш, — сказаў з роздумам, разважліва. — Скажу я табе Хвёдаравіч, што ў етай справе падмешаны Міця Дзыгун. Толькі ні-ні, нікому, — ён падняўся на дыбкі, зашаптаў Родзічу ў самае вуха. — Сказаў мне верны чалавек, што ён пісулькі кідае на кажыннага, каго не ўпадабае.

Вестка гэта ашаламіла Родзіча, але выгляду не падаў, зірнуў на Саўку, удакладніў, таму што трэцяя частка жыхароў вёскі насіла прозвішчы Дзыгун.

— Загадчык клуба?

— Ён самы, хлюст недасмажаны!

Нямыцька развітаўся і пасунуўся да свайго двара, а Родзіч задуменна, з трывогай доўга глядзеў услед, потым выцягнуў папяросу, закурыў. “Таксама баіцца, — падумаў міжволі пра Нямыцьку. — У Чырвонай Арміі ваяваў, а баіцца. Ды і Кісель ваяваў, а забралі, не паглядзелі на былыя заслугі. Разбярыся тут, што да чаго. А сапраўды, дарэмна гэта машына не ездзіць, каго ж забяруць?” І заныў у душы той самы трывожна-апаслівы неспакой, які ён упершыню адчуў у гутарцы з Драпезам. “Лепш бы адразу ўзялі, чакаць, здагадвацца, трывожыцца ўжо няма сіл”, — падумаў раптам з азлобленай рашучасцю.

Чорная эмка паехала ў чатыры гадзіны ночы. Родзіч прасядзеў, не распранаючыся, усю ноч каля вакна, уздрыгваў пры кожным гуку. Раніцай ішоў на заняткі, нібы па вуголлі, не чуючы ног. У калідоры яго чакаў Булат, прыгорблены, усхваляваны.

— Белаконя ўзялі. Трымалі гадзін да чатырох і павезлі, — прашаптаў ён.

У настаўніцкай стаяла трывожная цішыня, усе сядзелі, апусціўшы галовы, толькі Маторны нервова, усхвалявана хадзіў па пакоі, нешта горача даказваў. Калі ўвайшоў дырэктар, ён змоўк, чакальна ўставіўся ў Родзіча, быццам крыху збянтэжыўся. “Мо прыклаў руку? — гідліва падумаў Родзіч. — І яшчэ нешта даказвае”.

Пасля ўрокаў настаўнікі разышліся, Родзіч сядзеў адзін, думаў пра начны арышт. “Маторны, Маторны, — пульсавала кроў. — Няўжо ён? Толькі год у школе, нічым сябе не праявіў, а — у партыю прарваўся. Няўжо ён?”

У настаўніцкую ўвайшоў Булат, ціхенька прысеў на канапу, зазірнуў у твар Родзічу, панізіў голас да шэпту:

— Страшна, Фёдаравіч. Як сякера вісіць над галавой. Ворагі народа Белаконь, Кісель?.. Смешна! Але тут нешта іншае: ці запужаць людзей хочуць? Ці гэта ўжо канец свету? Канстытуцыю растапталі, усчалі вайну супраць народа. Я ўжо стары, пажыў, дзякуй богу, а вам, маладым, што рабіць? А як спадзяваліся, верылі, якія песні пелі!

— І цяпер пяюць, — горка ўсміхнуўся Родзіч.

— Кісель на вяселлі сына спеў прыпеўку, — падтрымаў Булат. — Вораг, нашкодзіў. А прыпевачка нічога, на тэму дня.

— Не трэба, прашу вас, — Родзіч прыўзняўся, са спалохам зірнуў на настаўніка.

Але Булат тонкім галаском прапеў:

**Як заможна мы жывём —**

***Сёлетні год аб'яўлены годам Мікалая Радзівіла Чорнага (1515–1565). Побач з Астафеем Валовічам і Львом Сапегам ён належыць да дзяржаўных дзеячаў кшталту Рышалье, Бісмарка, Сталыпіна, Чэрчыля і падобнз да іх. Канцлер Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, віленскі ваявода, а фактычна некаранаваны кароль беларуска-літоўскай дзяржавы, які вызначаў як унутраную і знешнюю палітыку, дыпламат, "бацька" і галоўны апякун айчыннай Рэфармацыі, мецэнат, якому мы абавязаны Брэсцкай і Нясвіжскай друкарнямі, дзе былі выдадзены знакамітыя Біблія, беларускі "Катэхізіс", іншыя кнігі і г. д.***

***Прыхільнасць Мікалая Радзівіла Чорнага Рэфармацыі некаторыя даследчыкі звязвалі з яго быццам бы сепаратысцкімі тэндэнцыямі, жаданнем ператварыць падуладныя яму землі ў свае ўдзельнае княства, легкадумным рэлігійным франдзёрствам і г. д. Але ж факты сведчаць, што дзейнасць канцлера ў гэтым напрамку была больш сур'ёзнай і палітычна спелай, што яна мела самыя высакародныя гістарычныя мэты. Для яго рэлігійна-царкоўны суверэнітэт з'яўляўся сродкам захавання суверэнітэту дзяржаўнага.***

# КАБ КРАЙ БЫЎ ВОЛЬНЫМ...

## БЕЛАРУСКАЯ РЭФАРМАЦЫЯ І ІДЭЯ СУВЕРЭНІТЭТУ

18 красавіка 1563 года Сымон Будны накіраваў з Клецка ў Цюрых ліст да швейцарскага тэолага-кальвініста Генрыха Булінгера, у якім прыведзены унікальныя звесткі аб пачатку рэфармацыйнага руху ў Вялікім княстве Літоўскім. Будны піша, што пасля таго як "святло слова Боскага заззяла ў Германіі, Швейцарыі, Англіі, Францыі", у хуткім часе яно дасягнула і да "нашых краёў" і "азарыла канцлера нашага Мікалая Радзівіла, князя на Аліцыі і Нясвіжы". Ён не толькі "разам са сваім дваром прыняў вучэнне Хрыста, але і вырашыў, што ўсе людзі, якія знаходзяцца пад яго ўладай, павінны быць асвечаны гэтым вучэннем". Рэалізаваць гэтую задачу, піша Будны, Радзівіл узяўся без прамаруджання. Ён прыцягнуў да справы "набожных міністраў евангелля", якія складаліся галоўным чынам з маладых, энергічных і адукаваных людзей, выхаванцаў Кракаўскага універсітэта, і даручыў ім кіраваць рэфармацкімі суполкамі. Многія касцёлы і цэрквы, якія знаходзіліся ва ўладаннях князя, былі "перапрафіліраваны" ў зборы, або пратэстанцкія храмы. Рэформай, падкрэслівае Будны, было ахоплена як каталіцкае, так і значная частка праваслаўнага насельніцтва.

Як вядома, Рэфармацыю у ВКЛ падтрымалі не толькі Мікалай Радзівіл Чорны, яго браты і некаторыя нашчадкі, але даволі значная частка беларускай і літоўскай арыстакратыі, панства, шляхты. Пратэстантамі, альбо евангелікамі-рэфарматамі, гарачымі прыхільнікамі Рэфармацыі былі такія выдатныя грамадскія дзеячы, як Астафей Валовіч, Леў Сапега, Мікалай Монвід-Дарагастайскі і некаторыя іншыя, якія адыгралі рашаючую ролю ў дзяржаўным, палітычным, рэлігійным, культурным жыцці ВКЛ, у прыватнасці Беларусі XVI — пачатку XVII ст. Спачуваў Рэфармацыі кіеўскі ваявода, лідэр праваслаўнай партыі князь Канстанцін Астрожскі.

У чым прычына такой прыхільнасці, такіх рашучых крокаў, чаму прадстаўнікі старажытных беларускіх праваслаўных і каталіцкіх знакамітых радоў, па сутнасці беларуская феадальная і інтэлектуальная эліта, парывала з традыцыйнай рэлігіяй, адмаўлялася ад веры бацькоў, уступала ў канфлікт і са сваімі сем'ямі, і са сваім станам, і з каралеўскай уладай, і з канстанцінопальскім патрыярхатам або рымскай курыяй?! Канечне, прычына не ў асабістых амбіцыях, шляхецкім свавольстве, даніне модзе і да т. п., а ў свядомай светапогляднай і грамадзянскай пазіцыі, у жаданні рэфармаваць наяўнае рэлігійнае сацыяльна-палітычнае, эканамічнае, духоўна-культурнае жыццё грамадства.

Справа ў тым, што з пачатку XVI ст. у духоўным жыцці ВКЛ, беларускім менталітэце ўсё большую сілу набываюць ідэі Адраджэння і Рэфармацыі, якія істотна ўплываюць на грамадскую свядомасць, дзейнасць асобных людзей і сацыяльных груп. Фундаментальнай ідэяй гэтых рухаў была ідэя свабоды, менавіта на хвалі Адраджэння і Рэфармацыі фармуецца ідэя свабоды, суверэнітэту ва ўсіх яе аспектах — рэлігійным, нацыянальна-культурным, дзяржаўным. Рэфармацыя, сцвердзіўшы прынцып асабістых адносін да Бога, праклала шлях не толькі да рэлігійнай, але і да нацыянальна-культурнай свабоды.

Францыск Скарына, папярэднік беларускай Рэфармацыі, сваім перакладам Бібліі, патрыятызмам, абгрунтаваннем такіх каштоўнасцяў, як родная мова, радзіма, веды, мараль й наогул духоўнасць, паклаў пачатак ідэі беларускага нацыянальна-культурнага суверэнітэту. Вялікая заслуга мысліцеля ў абуджэнні нацыянальнай свядомасці беларускага народа, што з'яўляецца асновай ідэі суверэнітэту. Ідэя нацыянальна-культурнага суверэнітэту, як вядома, была падтрымана і распрацавана рэфарматарамі Сымонам Будным і асабліва Васілём Цяпінскім у знакамітых прадмовах да "Катэхізіса" і "Евангелля". Самое выданне "Катэхезіса" на народнай беларускай мове, да чаго мелі дачыненне разам з Сымонам Будным Мацей Кавячынскі і Лаўрэн Крышкоўскі, з'явілася эпахальнай падзеяй у гісторыі станаўлення ідэі беларускага нацыянальна-культурнага суверэнітэту.

Нацыянальна арыентаванымі былі беларускія магнаты-пратэстанты Астафей Валовіч, Леў Сапега і некаторыя іншыя. Канешне, галоўны ўклад гэтых, можна сказаць, стаўпоў нацыі, у сцвярджэнні дзяржаўнага суверэнітэту, але ж яны многа зрабілі на ніве беларускай культуры: кнігавыдання, школьнай адукацыі, роднай мовы. Прывяду адзін малавядомы, але характэрны прыклад. Калі рыхтавалася другое выданне Статута Вялікага княства Літоўскага (1566), некаторыя члены рэдакцыйнай камісіі (Аўгусцін Ратундус, Пётр Раізій) настойвалі на падмене беларускай мовы мовай лацінскай. Але гэтаму запярэчылі патрыятычна настроеныя беларускія юрысты, у прыватнасці, пісар вялікакняжацкай канцылярыі, кальвініст Марцін Валадковіч і некаторыя іншыя. Іх падтрымаў кіраўнік статутавай камісіі канцлер Астафей Валовіч, у выніку чаго Статут быў апублікаваны на беларускай мове. Магчыма, дыскусія паміж "лацінікамі" і "беларусістамі" працягвалася далей, у перыяд падрыхтоўкі Статута 1588 г. Прычым, у карысць "беларусістаў". Ва ўсякім разе, у адной са сваіх прадмоў да Статута, Сапега з гордасцю сцвярджаў, што мы "не обчым якім языком, але сваим власным права списаныя маем". Менавіта ў Статуце 1588 было зафіксавана, што "писар земскій мает по руску, литерами и словы рускими, вси листы, выписы и позвы писати, а не иншым языком и словы".

Вельмі прывабнай для пэўных колаў грамадства ВКЛ, галоўным чынам буйных феадалаў, а таксама гараджанаў, была ідэя царкоўнай незалежнасці, якую, як вядома, змяшчала ў сабе Рэфармацыя. Евангелісцка-рэфармацкая царква ўяўлялася Мікалаем Радзівілам Чорным, Мікалаем Радзівілам Рудым і іншымі ў якасці самастойнай нацыянальна-дзяржаўнай царквы, незалежнай з аднаго боку ад Рыма, з другога — ад Канстанцінопаля і Масквы. Была створана аўтаномная адміністрацыйна-тэрытарыяльная царкоўная сістэма (шэсць дыстрыктаў — Віленскі, Завілейскі, Навагарадскі, Рускі, Брэсцкі, Жмудзкі — на чале з суперінтэндантам, з сінодамі агульнацаркоўным і па дыстрыктах), з даволі выразнымі элементамі дэмакратыі і парламентарызму, прычым не толькі ў арганізацыйным жыцці, але і ў адносінах паміж братамі розных станаў. На жаль, спроба зрабіць пратэстанцкую царкву царквой нацыянальна-дзяржаўнай не ўвянчалася поспехам. На гэта былі свае прычыны, але ж гэта, спроба пакінула пасля сябе ідэю рэлігійна-царкоўнай незалежнасці, якую беларускія дзяржаўныя і царкоўныя дзеячы намагаліся рэалізаваць на працягу гісторыі і якая не страціла сваёй актуальнасці і ў нашы дні.

Рэфармацыя ўкараніла ў грамадскае жыццё ідэю верацярпімасці, талерантнасці, якая была зафіксавана ў шэрагу дзяржаўных дакументаў (Прывілеі 1563, 1568, Варшаўская канфедэрацыя 1573 г., Статут ВКЛ 1588 — Разд. 3, арт. 3). Гэта ідэя даказала сваю палітычную эфектыўнасць на працягу 60—80 г г. XVI ст., дапамагаючы будаваць дзяржаўны суверэнітэт краіны, падтрымліваць грамадскую згоду, праводзіць рэформы, развіваць культуру. Вялікай памылкай дзяржавы, урада, беларускай феадальнай эліты была пераарыентацыя з ідэі рэлігійна-канфесіянальнай талеранцыі на ідэю вуніі. Знаходзячыся ў дуаканфесіянальным культурна-рэлігійным асяроддзі, паміж Усходам, Захадам Сцылай Польшчы і Харыбдай Маскоўскай дзяржавы нельга было прымаць аднабаковы заходні ўхіл. Калі Леў Сапега гэта зразумеў — было ўжо позна. Вялікае княства Літоўскае, Беларусь, Украіна калаціліся ад рэлігійных і сацыяльных канфліктаў, якія разбуралі грамадства і дзяржаву, набліжалі краіну да страты суверэнітэту.

Аднак самай моцнай ідэяй, якая вынікала з менталітэту Рэфармацыі, была ідэя дзяржаўнага суверэнітэту. Менавіта жаданне бачыць Вялікае княства незалежнай краінай стымулявала беларускую магнатэрыю ахвяраваць сямейнымі традыцыямі, "верай бацькоў", міласцю караля. Радзівілы, Валовічы, Сапегі, Кішкі, Хадкевічы, Гарнастаі, Пацы, Глебовічы, Дарагастайскія — далёка няпоўны пералік тых з беларускага і літоўскага панства, хто прыняў Рэфармацыю і хто займаў у ВКЛ ключавыя дзяржаўныя пасады. Вядома, што XVI стагоддзе для ВКЛ — гэта эпоха вялікіх рэформ, якія стымуляваліся рэфармацыйным рухам і ўмацоўвалі дзяржаўны суверэнітэт краіны: аграрная рэформа (1557-1569), так званая "валочная памера", судова-адміністрацыйная рэформа (1564-1566), якая цэнтралізавала і палітычна стабілізавала дзяржаву, стварыла (як падкрэслівае І. Юхо) самую сучасную ў Еўропе судовую сістэму і прававую тэорыю, заканадаўства. Прыкладам з'яўляюцца тры Статуты — 1529, 1566 і 1588 года. Абараняючы незалежнасць, беларускія і літоўскія магнаты-кальвіністы "далі бой" польскім феадалам, якія імкнуліся гранічна абмежаваць дзяржаўны суверэнітэт ВКЛ на Люблінскім сойме (1569). На жаль, Мікалая Радзівіла Чорнага ўжо не было з імі. Аднак дзякуючы Валовічу, Радзівілу Рудаму і іншым, ВКЛ захавала некаторыя істотныя атрыбуты сваёй незалежнасці: урад, войска, казну, заканадаўства, адміністрацыю, дзяржаўную — беларускую — мову. Праз некаторы час, дзякуючы тым жа магнатам, узнавіў сваю працу і сойм ВКЛ. Статутам 1588 былі нейтралізаваны некаторыя іншыя абмежаванні дзяржаўнага суверэнітэту ВКЛ.

Выпрацаваная пад уплывам Адраджэння і Рэфармацыі ідэя беларускага суверэнітэту прайшла доўгі і пакутлівы шлях, стала самай актуальнай ідэяй нашага часу.

**С. ПАДОКШЫН,**
**доктар філасофскіх навук**

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Казка пра Лёніна, якога іншы раз называлі Леніным, і ён не пярэчыў, а цяпер рашуча патрабуе, каб не забывалі ставіць кропкі над "ё".

●

З усіх утапічных бальшавіцкіх ідэй ацалець давялося адзінай ідэйцы — утворана моўная повязь людзей пад агульным назовам беларуса-расейцы. Спатрэбяцца, мабыць, гады і гады, каб нас развялі і туды і сюды.

●

Бачым па пунктах шклатары, не ўсё ў краіне нармальна — прымаюць з-пад вадкіх тавараў зрэдчас і выбіральна.

●

Кожны ведаў, што зямля пачынаецца з Крамля, гэта быў агульны сімвал веры. Ды аднойчы ў Крамлі прагрымела: "Віскулі" — і ўсчаўся ранак новай эры. Узыход з далёкае вярсты? Стрэл "Аўроры"? Каб не халасты.

●

Міністр паслаў на Захад сына. Маўляў, падвучыцца, лайдак, пабачыць белы свет "за так" — і вернецца назад Скарынай. Але з начальніцкага сына ці атрымаецца Скарына? Зусім не з міністэрскіх генаў прырода лепіць часам геніяў. Міністры самі гэта знаюць... і ўсё-ткі дзетак у шлях збіраюць.

●

— Вуй, мафіёзы мяне ракетнулі!..

Чулі, любыя, чулі? Новае запаноўвае ў мове, калі гэтак галосяць бабулі.

●

Кажаш, доля праўды гэта мала — паўдарогі, паўнадзеі, паўнапала, а калі хлусня раскіне фалды, не пражыць і з палавінай праўды? Праўда, браце, не ступень ці мера, праўда — пераконанасць і вера, праўда як раса на чыстай гронцы — і ў кроплі адаб'ецца сонца.

●

На сімпозіуме гаварылі аб народных асновах паэзіі, танца, дойлідства, музыкі. Усе размаўлялі на родных мовах, беларусы — на БССРаўскай — рускай.

●

Адна маладая панна марыла пра блакітную ванну. Дасюль пакутвае панна, што мара здзейснілася так рана. Трэба было, лічыць панна, марыць пра мармуровую ванну. Як жа нам не хапае тавараў, пра якія можна толькі марыць!

ЛіМ ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
**Саюз беларускіх пісьменнікаў і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

***Газету рэдагавалі***

***Х.Дунец (1932-35)***
***І.Гурскі (1935-41)***
***А.Куляшоў (1945-46)***
***М.Горцаў (1947-49)***
***П.Кавалёў (1949-50)***
***В.Вітка (1951-57)***
***М.Ткачоў (1957-59)***
***Я.Шарахоўскі (1959-61)***
***Н.Пашкевіч (1961-69)***
***Л.Прокша (1969-72)***
***Х.Жычка (1972-76)***
***А.Асіпенка (1976-80)***
***А.Жук (1980-86)***
***А.Вярцінскі (1986-90)***

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**
**Міхась ЗАМСКІ**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**
**Жана ЛАШКЕВІЧ**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ**
**Барыс ПЯТРОВІЧ, *першы намеснік галоўнага рэдактара***
**Юрась СВІРКА**
**Віктар ШНІП, *намеснік галоўнага рэдактара***

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі -- *332-461***
**намеснікі галоўнага рэдактара -- *332-525, 331-985***
**аддзелы:**
**публіцыстыкі -- *332-525***
**пісьмаў і грамадскай думкі -- *331-985***
**літаратурнага жыцця -- *332-462***
**крытыкі і бібліяграфіі -- *332-204***
**паэзіі і прозы -- *332-204***
**музыкі -- *332-153***
**тэатра, кіно і тэлебачання -- *332-153***
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- *332-462***
**навін -- *332-462***
**мастацкага афармлення -- *332-204***
**фотакарэспандэнт -- *332-462***
**бухгалтэрыя -- *268-640***



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 10979.
Нумар падпісаны 18. 5.1995 г.
ЗАКАЗ 1547
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12